


# Царква

"Каб усе былі адно"
(Ян 17, 21)

№ 2 (61), 2009
17 чэрвеня

БЕЛАРУСКАЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ГАЗЕТА


## Год сьвятарства: новыя дыяканы БГКЦ



• 13.05.2009. Мукачава (Украіна). Высьвячаньне на дыякана Алеся Аўдзеюка.





• 16.05.2009, Львоў. Архібіскуп Львоўскі Ігар Возьняк рукапакладае на дыякана бр. Алеся Нікалаева, CSsR.

## У нумары:



*"Евангелізацыя – гэта дзяленьне сваёй вераю з тымі, хто яе яшчэ не атрымаў, і з тымі, у каго яна аслабла. У постсавецкім перыядзе мы бачым, што ў многіх людзей веданьне і разуменьне Бога ёсьць вельмі павярхоўнае. Заданьне Царквы – нікому не накідаючы Божага слова, паказаць праўду веры. Дапамагчы людзям зразумець сваё пакліканьне, жыцьцёвае заданьне"*

*Першаярарх УГКЦ кардынал Любамір ГУЗАР.*

**ЮБІЛЕЙ**

*Апостальскага Візітатара БГКЦ Архімандрыта Сяргея (Гаека): 35 гадоў сьвятарства і 60-годдзе*

**Шчыра віншуем!**



# Год сьвятарства ў Царкве

***З 19 чэрвеня 2009 году ў Каталіцкай Царкве распачнецца Год сьвятарства. Патронам сьвятароў абвешчаны сьв. Ян Марыя Віянэй. Уласна ягоны стыль душпастырства заклікае насьледаваць Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI.***

З гэтай нагоды Старшыня Кангрэгацыі па справах Духавенства кардынал Клаўдзіу Хумэс заклікае паасобныя епіскапаты, дыяцэзіі, парафіі і мясцовыя супольнасьці распрацаваць праграму мерапрыемстваў на Год сьвятарства.

Кардынал Хумэс адзначае, што кожная лакальная Царква павінна распачаць гэты год пэўнай важнай, сьвяточнай літургічнай падзеяй.

“Год сьвятарства павінен адзначацца ва ўсім сьвеце з актыўным удзелам вернікаў, павінен стаць пазітыўным і актывізуючым часам”, – адзначае кардынал Хумэс. А таксама дадае, што сьвятары – гэта “людзі, якія па-сапраўднаму любяць Ісуса Хрыста, Царкву, народ Божы, салідарныя з беднымі і тымі, хто церпіць. У гэтых адносінах Царква ва ўсім сьвеце ганарыцца сваімі сьвятарамі”.

У гэты перыяд старшыня Кангрэгацыі па справах Духавенства заклікае прааналізаваць канкрэтныя ўмовы жыцьця сьвятароў, магчымасьці падтрымаць іх – перадусім там, дзе сьвятары жывуць у асаблівай беднасьці.

“Няхай гэта будзе год рэлігійных і грамадзкіх урачыстасьцяў, якія схіліць вернікаў да малітвы, рэфлексіі, сьвяткаваньня і аказаньня сваім сьвятарам належнай павагі. Няхай стане нагодай для разьвіцьця адзінства і сяброўскіх зносінаў сьвятароў з даручанай ім супольнасьцю”,– падкрэсьлівае кардынал Клаўдзіу Хумэс.

З нагоды Году сьвятарства Рымская Апостальская Сталіца выдала сьпецыяльны дэкрэт пра водпусты. Кожны вернік у гэты перыяд можа атрымаць поўны водпуст, калі “у скрусе сэрца” возьме ўдзел у сьв. Літургіі, ахвяруючы ў гэты дзень малітвы і добрыя ўчынкі ў намеры за сьвятароў, “каб Госпад Ісус Хрыстос кшталтаваў іх паводле свайго Сэрца”.

У БГКЦ Год сьвятарства распачаўся 19 чэрвеня з урачыстай падзячнай Літургіі ў гадавіну візіту ў Беларусь Дзяржсакратара Ватыкану кардынала Тарчызіё Бэртонэ, які роўна год таму наведаў і асьвяціў грэка-каталіцкі цэнтр сьв. Язэпа ў Менску. Таксама ў гэты дзень беларускія грэка-каталіцкія сьвятары віншавалі з 35-годдзем сьвятарства Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыта Сяргея (Гаека), у якога сёлета яшчэ і 60-гадовы юбілей. Урачыстае набажэнства ў гэты дзень узначальваў Апостальскі Нунцый у Беларусі архібіскуп Марцін Відавіч.

## ЮБІЛЕІ

# Апостальскага Візітатара БГКЦ

***23 чэрвеня 2009 году Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) адзначыў 35-годдзе свайго сьвятарства. Сёлета ў яго яшчэ і 60-гадовы юбілей.***

Архімандрыт Сяргей (Гаек) – доктар багаслоўя, доктар Усходніх царкоўных навук, член-карэспандэнт Папскай Міжнароднай Марыйнай Акадэміі *(Pontificia Academia Mariana Internationalis)*, дасьледчык духоўнасьці і літургіі Ўсходніх Цэркваў, а таксама аўтар шматлікіх навуковых публікацыяў па літургіцы, пнеўматалогіі, еўхарысталогіі, марыялогіі, кірыла-мятодаўскай традыцыі і экуменічных стасунках Цэркваў на славянскім Усходзе.

Айцец Сяргей (сьвецкае імя – Ян) нарадзіўся 08.02.1949 г. у Лышкавіцах Лодзкага ваяводзтва (Польшча).

Напачатку хацеў вывучаць славянскую філалогію ў Варшаўскім унівэрсітэце, аднак адмовіўся ад гэтай ідэі і ў жніўні 1967 г. уступіў у манастыр айцоў-марыянаў, дзе змог рэалізаваць сваё жаданьне служыць для Ўсходніх Цэркваў. Дзякуючы беларускаму сьвятару-марыяніну Тамашу Падзяву, які меў моцны інтэлектуальны і духоўны ўплыў на яго, далучыўся да беларушчыны.

У 1967-1974 гг. навучаўся на багаслоўскім факультэце Каталіцкага ўнівэрсітэту ў Любліне (КУЛ). Падчас студыяў кантактаваў з беларускім культурным і рэлігійным асяродкам у Лёндане (найперш з біскупам-марыянінам Чэславам Сіповічам). У гэтым часе быў перасьледаваны службамі бясьпекі Польскай Народнай Рэспублікі.

Вечныя манаскія зарокі склаў 15.08.1973 г., а сьвятарскія сьвячаньні атрымаў 23.06.1974 г. у Гуры Кальварыі каля Варшавы. Як сьвятар нёс пастырскую дапамогу (падпольна) хрысьціянам у Чэхаславакіі і Балгарыі.

У 1978-1983 гг. ён студыяваў у Папскім Усходнім інстытуце *(Pontificia Instituto Orientale)*, а ў лістападзе 1983 г. абараніў там доктарскую працу па ўсходняй эклезіялогіі. У 1983-1999 гг. вёў навукова-дыдактычную дзейнасьць і быў выкладчыкам багаслоўя Ўсходніх Цэркваў у Экуменічным інстытуце Каталіцкага ўнівэрсітэту ў Любліне. З канца 1980-х, паралельна з навуковай дзейнасьцю, нёс пастырскую дапамогу хрысьціянам у Эстоніі, Таджыкістане, Казахстане, Якутыі, Сібіры, Украіне і Беларусі.

З восені 1993 г. айцец Сяргей Гаек – візітатар-дэлегат Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў у справе грэка-католікаў Беларусі, а ў студзені 1994 г. Папа Ян Павел II прызначыў яго Апостальскім Візітатарам для грэка-католікаў у Беларусі.

У 1996 г. Кангрэгацыяй Ўсходніх Цэркваў а. Сяргей Гаек быў пастаўлены ў сан архімандрыта і атрымаў архімандрыцкую хіратэсію з рук Мітрапаліта Перамышльска-Варшаўскага Яна (Мартыняка).

У 1997-ым ён стаў кансультарам Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.

У лютым 2003 г. падчас візіту каталіцкіх ярархаў Беларусі *ad limina Apostolorum* Папа Ян Павел II падарыў Архімандрыту Сяргею (Гаеку) біскупскі крыж, а ў 2004 г. Першаярарх УГКЦ кардынал Любамір (Гузар) дараваў яму грамату на права нашэньня панагіі і даў літургічны прывілей на бласлаўленьне вернікаў дыкірыем і трыкірыем.

Працяг на с. 9 ⇨

***Ад імя Рэдакцыі газеты “Царква” і яе чытачоў шчыра віншуем Апостальскага Візітатара БГКЦ Архімандрыта СЯРГЕЯ (Гаека) з 35-годдзем сьвятарства і 60-гадовым юбілеем. Няхай Усемагутны Госпад умацоўвае і скіроўвае Вас на шляху служэньня нашай Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве і беларускаму народу дзеля праслаўленьня Госпада і спаўненьня Яго запавету “каб усе былі адно”. Многія леты!***



# АРХІРЭЙСКАЯ ХІРАТОНІЯ новага Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў

***7 траўня 2009 году Папа Бенядыкт XVI прызначыў новага Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў – а. Цырыла Васіля, SJ, які дагэтуль працаваў рэктарам Папскага Ўсходняга інстытуту (Pontificia Instituto Orientale). У нядзелю, 14 чэрвеня, у рымскай базыліцы Santa Maria Maggiore адбылася архірэйская хіратонія новага Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, якога Папа ўзьвёў да годнасьці архібіскупа, удзяліўшы яму тытулярны пасад Пталемаіды Лівійскай.***

Хіратонія адбывалася ў той самай базыліцы, у якой 1140 гадоў таму Папа Адрыян II у 869 годзе высьвяціў на біскупа Апостала і Настаўніка Славянаў – сьв. Мятода (Салунскага). Перад яе пачаткам быў зачытаны прывітальны ліст ад Дзяржсакратара Ватыкану кардынала Тарчызіё Бэртонэ, у якім адзначаецца, што Грэка-Каталіцкая Царква ў Славакіі дала нямала мучанікаў і мужных вызнаўцаў веры ў часы камуністычнага перасьледу, якія засьведчылі сваю вернасьць Папе і сталі тым добрым семем, якое прынесла багаты плён. І сёньня, у асобе пакліканага на адказнае служэньне сына гэтай зямлі Цырыла Васіля, можна бачыць “яшчэ адзін знак багатага ўраджаю, які падрыхтаваў Госпад”. Пасьля таго, як намінант а. Цырыл (Кірыла) Васіль склаў вызнаньне веры, быў зачытаны дэкрэт пра абраньне яго на архібіскупа і прызначэньне на служэньне ў Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.



• *14.06.2009. Рым, Базыліка Santa Maria Maggiore. Ускладаньне рук біскупамі падчас хіратоніі Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Цырыла Васіля.*

Ва ўрачыстай сьв. Літургіі ў візантыйска-славянскім абрадзе, якую ўзначальваў грэка-каталіцкі Мітрапаліт Прэшаўскі Ян Бабяк, SJ, удзельнічалі 22 біскупы ўсходніх каталіцкіх Цэркваў, 7 біскупаў лацінскага абраду і больш за 150 сьвятароў розных абрадаў (візантыйскага, малабарскага, маланкарскага, копцкага, мараніцкага, армянскага, лацінскага) з усяго сьвету, а сярод славацкіх сьвятароў, якіх было асабліва шмат, былі таксама бацька і родны брат новавысьвячанага Ўладыкі Кірылы (Васіля), якія, як і ён, зьяўляюцца грэка-каталіцкімі сьвятарамі. Літургію саслужылі Прэфект Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў кардынал Леанарда Сандры (ён гаварыў казаньне падчас Літургіі), Прэзідэнт Папскай Рады па справах душпастырства мігрантаў і падарожнікаў архібіскуп Антоніа-Марыя Вэльё – папярэднік Уладыкі Кірылы на пасадзе Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў, а. Адольфа Нікалас, Генеральны супэрыёр айцоў-езуітаў, а сярод чатырох кардыналаў, прысутных на гэтай урачыстай багаслужбе, быў і чэшскі кардынал Тамаш Шпідлік, SJ – выдатны багаслоў і знаўца духоўнасьці хрысьціянскага Ўсходу.

Абрад хіратоніі ўзначальваў Уладыка Славамір (Міклаўш), біскуп Крыжавацкай грэка-каталіцкай япархіі ў Харватыі, які нядаўна пайшоў на пенсію і які роўна 22 гады таму высьвяціў Цырыла Васіля на сьвятара. Паводле царкоўнай традыцыі падчас біскупскай хіратоніі з ім саслужылі два біскупы – архібіскуп Прэшаўскі Ян Бабяк і біскуп Кошыцкі Мілан Хаўтур, CsSR.

Працяг на с. 20 ⇨



• *Мукачава (Украіна), 14.05.2009. Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей Гаек і беларускія грэка-католікі з новым Сакратаром Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Уладыкам Кірылам (Васілём) і грэцкім біскупам Дзімітрыясам Салахасам.*

# Пакліканыя для дыяканскага служэньня ў БГКЦ

***У траўні 2009 году духавенства Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы папоўнілася двума новымі дыяканамі. Для Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі іх высьвяцілі біскупы з Украіны.***

Алесь Аўдзяюк, які родам з прыбужскага мястэчка Дамачава Берасьцейскага раёну, быў высьвячаны на дыякана 13 траўня 2009 году, у дзень успаміну цудоўнага зьяўленьня Маці Божай у Фаціме. Сьвячаньні яго адбываліся падчас Сустрэчы ярархаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Еўропы, якая праходзіла ў Вужгарадзе – цэнтры Мукачаўскай грэка-каталіцкай япархіі ў Закарпацьці. Падчас урачыстай архірэйскай багаслужбы дыяканскія сьвячаньні Алесю Аўдзеюку ўдзяліў Уладыка Мілан Шашык, біскуп Мукачаўскі, з якім ва Ўсьпенскай конкатэдры г. Мукачава разам саслужылі амаль чатыры дзясяткі біскупаў, у тым ліку Першаярарх УГКЦ кардынал Любамір Гузар, шматлікія ўкраінскія, славацкія, італа-албанскія, румынскія, мараніцкія і інш. усходнія каталіцкія ярархі з 14 краінаў Еўропы, а таксама Апостальскі Візітатар БГКЦ архімандрыт Сяргей (Гаек).

За новага дыякана БГКЦ на сьвячаньнях у Мукачаве малілася таксама невялікая група беларускіх вернікаў – старшыня івацэвіцкай парафіі іпадыякан Вячаслаў Гарчакоў і два беларускія грэка-каталіцкія семінарысты, якія вучацца ў Івана-Франкоўску.

А 16 траўня 2009 году, у дзень успаміну (па юльянскім календары) перастаўленьня вялебнага Тэадозія Пячорскага – пачынальніка супольнага манаскага жыцьця на ўсходнеславянскіх землях, Львоўські архібіскуп дастойны Ўладыка Ігар Возьняк у царкве сьв. Язафата паставіў у дыяканы двух рэдэмптарыстаў – украінца бр. Багдана Гелету і беларуса бр. Антона Нікалаева. Удзел у архірэйскай сьв. Літургіі ўзялі таксама Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, вікары Львоўскай Правінцыі Чыну Найсьвяцейшага Адкупіцеля а. Пятро Баран і іншыя айцы і браты рэдэмптарысты, а таксама а. Ігар Кандрацьеў, парах парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці, з якой паходзіць нававысьвячаны ерадыякан Антон Нікалаеў. На яго сьвячаньні прыехала некалькі дзясяткаў вернікаў БГКЦ з Берасьця, Менску, Івацэвічаў, Пінску, а таксама семінарысты, якія вучаццца ў Івана-Франкоўску, ды с.Вікторыя (Чэкан). Урачыстасьці сваім сьпевам суправаджала супольнасьць "Маран ата" з грэка-каталіцкай парафіі ў Берасьці.

Першае сваё дыяканскае служэньне для БГКЦ нававысьвячаны дыякан Алесь Аўдзяюк меў у Львове падчас ўдзяленьня дыяканскіх сьвячаньняў беларускаму манаху-рэдэмптарысту Антону (Нікалаеву), а ў Беларусі – у Горадні, 17 траўня, на парафіяльным сьвяце мясцовай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай.

Абодва дыяканы пакуль знаходзяцца па-за межамі Беларусі. Дыякан Алесь жыве ў Айхштэце, што ў Баварыі, дзе сёлета заканчвае навучаньне на багаслоўскім факультэце мясцовага ўніверсітэту (сьпецыялізуецца на патралогіі). Дыяканскую практыку ён праходзіць ва Ўсходняй калегіі ў Айхштэце. Ерадыякан Антон знаходзіцца ў Львове ў манастыры айцоў-рэдэмптарыстаў, ён таксама заканчвае навучаньне – ва Ўкраінскім каталіцкім універсітэце.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**



*• Львоў, 16.05.2009. Дыяканскія сьвячаньні манаха-рэдэмптарыста бр. Алеся Нікалаева.*









# Сустрэча ўсходніх каталіцкіх ярархаў Эўропы ў Вужгарадзе

***Багаслоўскім, літургійным і пастаральным асьпектам Тайны сьвятарства была прысьвечана сустрэча біскупаў Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Эўропы, якая 12-14 траўня праходзіла ў Мукачаўскай грэка-каталіцкай япархіі на Закарпацьці.***

Гэта ўжо шостая падобная сустрэча ўсходніх каталіцкіх ярархаў. Яны пачалі праводзіцца з 1997 году, а з 2004 году адбываюцца штогод, і кожная з іх прысьвечана пэўнай тэматыцы. Сёлета сустрэча ўсходніх-каталіцкіх ярархаў упершыню адбывалася пад патранатам Рады Біскупскіх Канферэнцыяў Эўропы.

У сустрэчы ў Вужгарадзе ўзялі ўдзел 38 ярархаў з 14 Усходніх Каталіцкіх Цэркваў Эўропы. Гэта найбольшая колькасьць удзельнікаў за ўсю гісторыю правядзеньня такіх сустрэчаў. Акрамя біскупаў УГКЦ (з Украіны, Польшчы, Нямеччыны, Францыі і Італіі) на чале са сваім Першаярархам кардыналам Любамірам Гузарам, прыехалі грэка-каталіцкія ярархі з Славакіі, Румыніі, Чэхіі, Грэцыі, Венгрыі, Італіі, Босьніі, Балгарыі, Беларусі, а таксама мараніцкі архібіскуп Кіпру. БГКЦ на форуме прадстаўляў Апостальскі Візітатар архімандрыт Сяргей (Гаек). На адкрыцьці прысутнічаў таксама Апостальскі нунцый ва Ўкраіне архібіскуп Іван Юркавіч.





Усе пленарныя паседжаньні і праца ў рабочых групах праходзілі ў памяшканьні Вужгарадзкай грэка-каталіцкай багаслоўскай акадэміі імя блаславёнага Тэадора Ромжы.

У першы дзень сустрэчы ўладыкі заслухалі два даклады: праф. Пятра Галадзы пра Тайну хросту з Боскай Літургіяй і праф. Манэля Нін, ЧСВ, пра багаслоўскія і літургійныя асьпекты Тайны сьвятарства. Пасьля абеду ярархі наведалі базыльянскі манастыр з цудатворнай іконай Маці Божай у Бараняве і адслужылі Боскую Літургію ў г. Хуст.

Другі дзень сустрэчы распачаўся дакладам праф. Цырыла Васіля, SJ "Правы і абавязкі біскупа і сьвятара". Яму былі складзены віншаваньні і пажаданьні ў сувязі з яго намінацыяй на пасаду Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў і наданьнем годнасьці архібіскупа. У гэты ж дзень усходнія каталіцкія ўладыкі разам з сьвятарамі і ў прысутнасьці вялікай колькасьці мясцовых вернікаў адслужылі Боскую Літургію ў Сьвятаўсьпенскай конкатэдры ў Мукачаве, на якой для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы, якая сёньня яшчэ ня мае ўласнага біскупа, быў высьвячаны на дыякана беларускі семінарыст Алесь Аўдзяюк. Сьвячаньні ўдзяліў яму мукачаўскі япарх Уладыка Мілан (Шашык). Пасьля архірэйскай літургіі ўсе ўладыкі ўдзялялі блаславеньне сужэнскім парам, што зьяўляецца ўжо шматгадовай традыцыяй у Мукачаве.

У трэці і апошні дзень сустрэчы ўсходніх каталіцкіх біскупаў Эўропы ўдзельнікі выслухалі даклад а. Роберта Ягера пра сьвятарства ў сьв. Паўла і сустрэліся з кардыналам Пятром Эрдо, Старшынём Канферэнцыі Біскупаў Эўропы. Заключнай кропкай форуму ўсходніх каталіцкіх ярархаў стала Боская Літургія ў грэка-каталіцкай катэдры ў Вужгарадзе, якую ўзначальваў мітрапаліт Прэшаўскі архібіскуп Ян Бабяк. Казаньне падчас багаслужбы прамовіў курыяльны біскуп Вярхоўнага Архібіскупа ў Румыніі Васіле Бізау.

У апошні дзень сустрэчы ярархі ўзялі ўдзел таксама ў асьвячэньні памятнага знаку на ўспамін пра выхад з падпольля Мукачаўскай грэка-каталіцкай япархіі. Помнік быў устаноўлены ў Вужгарадзе, паблізу капліцы ў мясцовасьці Кальварыя, дзе ўпершыню пасьля доўгіх гадоў перасьледу ў савецкія часы была публічна адслужана Боская Літургія.

Распавядаючы Дэпартаменту інфармацыі УГКЦ пра сёлетнюю сустрэчу ўсходніх каталіцкіх біскупаў Эўропы і мэту падобных спатканьняў, Першаярарх УГКЦ кард. Любамір Гузар сказаў: "Звычайна нашыя зьезды маюць падвойны характар: мы, калі ёсьць такая магчымасьць, зьбіраемся ў цудатворных месцах, каб разам зьдзейсьніць супольнае паломніцтва і мець нагоду для супольнай малітвы; іншай мэтай зьяўляецца жаданьне лепш пазнаць традыцыю Ўсходняй Царквы. Для гэтага ў апошнія гады мы разважаем над Сьвятымі тайнамі". Яшчэ адным заданьнем такіх форумаў усходніх каталіцкіх ярархаў, паводле Зьверхніка УГКЦ, стварэньне нагоды быць разам, бо ня ўсе біскупы, як ва Ўкраіне, маюць свой Сінод, а некаторыя ёсьць самыя. Таму, адзначыў кардынал Любамір, мы "разам раздумваем, якім ёсьць іхняе заданьне, як яны павінны дзяліцца сваёй усходняй духоўнасьцю з біскупамі Рыма-Каталіцкай Царквы".

*• Мукачава (Украіна), 13.05.2009. Уладыка Мілан (Шашык) удзяляе семінарысту БГКЦ Алесю Аўдзеюку дыяканскія сьвячаньні. Першае дыяканскае служэньне.*

# Беларусь наведаў Прымас Францыі

***З 7 па 10 чэрвеня 2009 году ў Беларусі з візітам знаходзілася афіцыйная дэлегацыя Рыма-Каталіцкай Царквы ў Францыі на чале з Прымасам гэтай краіны кардыналам Філіпам Барбарэнам – адным з найбольш аўтарытэтных дзеячаў Каталіцкай Царквы, які вядомы праз свой уклад у дыялог паміж Цэрквамі і рэлігіямі. Дэлегацыя прыехала па запрашэнні Беларускай Праваслаўнай Царквы, міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня "Хрысьціянскі адукацыйны цэнтр імя сьвятых Мятода і Кірылы" і асабіста Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.***



Усклад дэлегацыі, акрамя архібіскупа Ліёну кардынала Філіпа Барбарэна, уваходзілі таксама вядомыя каталіцкія багасловы-экуменісты: генеральны дырэктар каталіцкай дабрачыннай арганізацыі *"Œuvre d'Orient"* ("Усходнія працы") мансіньёр Філіп Брызар, былы дырэктар Рускага цэнтру ў Мэдоне сьвятар Рэнэ Марышаль, прэзідэнт Асацыяцыі ў падтрымку выдавецтва *"Sources Chretiennes"* ("Хрысьціянскія крыніцы") прафесар Жан-Дамінік Дзюран і генеральны сакратар гэтай Асацыяцыі сьвятар Дамінік Ганэ. У складзе дэлегацыі таксама знаходзіўся дарадца па рэлігійных пытаньнях пры Міністэрстве Замежных і Еўрапейскіх справаў у Парыжы сп. Стэфан Шмялеўскі, які быў амбасадарам Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Госьці з Францыі пазнаёміліся з сталіцай Беларусі і яе хрысьціянскімі сьвятынямі, пабывалі на экскурсіі ў Міры. 7 чэрвеня дэлегацыя прыняла ўдзел у Боскай Літургіі, якую адслужыў Мітрапаліт Філарэт у праваслаўным Сьвята-Духавым катэдральным саборы Менску з нагоды сьвята Зыходу Сьвятога Духа.



Прымас Францыі з членамі дэлегацыі сустракаўся падчас свайго візіту з ярархамі розных канфесіяў Беларусі: Мітрапалітам Філарэтам (Праваслаўная Царква), Мітрапалітам Тадэвушам Кандрусевічам (Рыма-Каталіцкая Царква), Архімандрытам Сяргеем Гаекам (Грэка-Каталіцкая Царква), які 8 чэрвеня саслужыў з Кардыналам сьв. Імшу ў менскай рыма-каталіцкай катэдры Найсьвяцейшай Марыі Панны. У гэты ж дзень адбылася сустрэча французскай дэлегацыі з прадстаўнікамі юдэйскай супольнасьці ў Беларусі, на якой была прэзентавана кніга кардынала Ф.Барбарэна і галоўнага рабіна Францыі Ж.Бернхайма "Рабін і кардынал".

8 чэрвеня 2009 г. у Інстытуце тэалогіі БДУ адбыўся ўрачысты акт уручэньня кардыналу Філіпу Барбарэну, архібіскупу Ліёну, ганаровага тытулу доктар *honoris causa* Інстытуту тэалогіі БДУ "за выдатны ўнёсак у разьвіцьцё багаслоўскай адукацыі і ўмацаваньне міжхрысьціянскага і міжрэлігійнага супрацоўніцтва".

9 чэрвеня архібіскуп Ліёну кардынал Філіп Барбарэн узначальваў сьвятую Імшу ў менскай архікатэдры. У гаміліі, якую прамовіў кардынал Барбарэн, ён заклікаў хрысьціянаў быць сольлю сёньняшняга сьвету, быць смакам радасьці: "Хрыстос паказвае нам, кім мы павінны быць, паколькі Ён выбраў



нас сваімі вучнямі: вы – соль зямлі, вы – сьвятло сьвету. Соль ніякім чынам не зьмяняе сутнасьці стравы, але цалкам перамяняе яе смак. Нашая задача не зьмяняць або трансфармаваць гэты сьвет паводле нейкіх нашых меркаваньняў, але напаўняць яго радасьцю і зьмяняць яго смак".

Пасьля імшы госьці з Францыі наведалі музей старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнай акадэміі Навук Беларусі, дзе іх пазнаёмілі з каштоўнымі набыткамі беларускай культуры. У гэты ж дзень яны пабывалі яшчэ ў Нацыянальнай бібліятэцы, а потым накіраваліся ў Курапаты, месца масавых пахаваньняў тысячаў рэпрэсаваных, каб ушанаваць памяць ахвяраў сталінскай эпохі.

Заключнай часткай афіцыйнага візіту стала паездка французскай дэлегацыі ў Слонім, Альбярцін і Жыровічы 9-10 чэрвеня. Госьці наведалі Жыровіцкі Сьвята-Ўсьпенскі мужчынскі манастыр і праваслаўную Менскую духоўную акадэмію і сэмінарыю ў Жыровіцах. Яны пазнаёміліся са шматвяковай гісторыяй манастыра і сучаснымі навуковымі дасягненьнямі гэтай праваслаўнай багаслоўскай школы, узялі ўдзел у навуковых і культурных мерапрыемствах, прысьвечаных хрысьціянскім караням еўрапейскай цывілізацыі, а таксама мелі магчымасьць пагутарыць са студэнтамі.

У Слоніме, ля цудатворнага абраза Маці Божай Жыровіцкай у касьцёле сьв. Андрэя, кардынал Ф.Барбарэн адправіў сьв. Імшу, на якой маліліся таксама сьвятары і вернікі БГКЦ.

Французская дэлегацыя прывезла ў дар Беларускай Праваслаўнай Царкве 250 тамоў з кніжнай серыі выдавецтва *"Sources Chretiennes"* ("Хрысьціянскія крыніцы"). Гэтае выдавецтва на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў выдае кнігі (усяго іх ужо больш за 500 тамоў) з тэкстамі як заходніх, так і ўсходніх Айцоў Царквы, пачынаючы з II стагоддзя, з двума паралельнымі тэкстамі на арыгінальнай і на французскай мове з грунтоўнымі каментарамі. Такі ж дар атрымала і бібліятэка Вышэйшай духоўнай рыма-каталіцкай семінарыі ў Горадні.

# Кардынал Барбарэн атрымаў ганаровы тытул у Інстытуце тэалогіі БДУ

***8 чэрвеня 2009 году ў межах візіту кардынала Філіпа Барбарэна, архібіскупа Ліёну (Францыя), які знаходзіўся ў Беларусі па запрашэньні Мітрапаліта Філарэта, у Інстытуце тэалогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэту адбылося ўручэньне кардыналу Барбарэну тытула Doctor honoris causa Інстытуту тэалогіі БДУ.***



*• 08.06.2009. Уручэньне ганаровага тытулу кард. Барбарэну.*

Кардынал Філіп Барбарэн вядомы сваім імкненьнем да разьвіцьця экуменічных і міжрэлігійных стасункаў. Ён зьяўляецца аўтарам, а таксама суаўтарам шматлікіх кніг: “Місіянерскае служэньне і прафесарская дзейнасьць”, “Хрысьціянін, якая твая вера?”, “Сто гарачых пунктаў гісторыі Царквы”, “Рабін і кардынал”, “Ойча наш”, “Шлях духоўнага жыцьця”, “Жыцьцё для мяне – Хрыстос” і інш. Яго кніга "Рабін і кардынал" у суаўтарстве з галоўным рабінам Францыі Жылем Бернхаймам сёньня адна з самых папулярных у рэйтынгах еўрапейскіх выдавецтваў.

Перад цырымоніяй уручэньня кардынал Барбарэн сустрэўся з журналістамі. На пытаньне, як ён ацэньвае адносіны паміж Каталіцкай Царквой і Праваслаўнай Царквой, французскі кардынал узгадаў словы Мітрапаліта Філарэта: “Мы складаем адну сям’ю. Нельга забываць, што вера – адна”. “Некалькі гадоў таму я меў вялікі гонар прымаць Мітрапаліта Філарэта ў Ліёне, і сёньня я бачу, з якой гасьціннасьцю ён прымае нас”,– сказаў кардынал Барбарэн. Французскі ярарх падкрэсьліў, што праз такія сустрэчы і візіты праяўляецца супольнае імкненьне Цэркваў да еднасьці хрысьціянаў. Таксама кардынал Філіп Барбарэн паведаміў, што ён зьвярнуўся з прапановай да зьверхнікаў Рыма-Каталіцкай і Праваслаўнай Царквы ў Беларусі, каб каталіцкія і праваслаўныя студэнты прыязджалі вучыцца ў Францыю, у Ліён. Ярархі вельмі адкрыта ўспрынялі гэтую прапанову. “Усе мы вельмі заклапочаны пытаньнем еднасьці хрысьціянаў”, – падкрэсьліў кардынал Барбарэн.

У сваёй лекцыі ў Інстытуце тэалогіі кардынал Барбарэн распавёў пра гісторыю аднoй з самых старажытных у Еўропе хрысьціянскіх біскупскіх катэдраў у Ліёне, якую ў II стагоддзі праславіў сваёй дзейнасьцю сьвяты Ірынэй Ліёнскі, аднолькава шанаваны і ў Праваслаўнай, і ў Каталіцкай Царкве.

Рашэньне Рады Інстытуту тэалогіі Белдзяржуніверсітэту аб прысуджэньні тытулу *Doctor honoris causa* кардыналу Філіпу Барбарэну за выдатны ўклад у разьвіцьцё багаслоўскай адукацыі і ўмацаваньне міжхрысьціянскага і міжрэлігійнага супрацоўніцтва абвясьціў протаярэй Уладзімір Башкіраў, загадчык катэдры філасофскай хрысьціянскай антрапалогіі Інстытуту тэалогіі БДУ. Кардынал Філіп Барбарэн стаў трэцім, хто атрымаў гэты ганаровы тытул.

У падзячным слове кардынал Барбарэн акцэнтаваў увагу прысутных, сярод якіх былі еўрапейскія багасловы і прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, на сучасным стане дыялогу паміж габрэямі і хрысьціянамі.

Пасьля завяршэньня асноўнай урачыстай часткі прафесар Жан-Дамінік Дзюран, прэзідэнт Асацыяцыі ў падтрымку выдавецтва *“Sources Chretiennes”*, перадаў у дар Беларускай Праваслаўнай Царкве 250 тамоў кніг.

Зьвяртаючыся да прысутных на цырымоніі ўганараваньня кардынала Барбарэна, Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч адзначыў: “Візіт кардынала Барбарэна ў Беларусь і прысуджэньне яму тытула *Doctor honoris causa* Інстытуту тэалогіі БДУ зьяўляецца яшчэ адным доказам нашага агульнага імкненьня да разьвіцьця міжхрысьціянскіх і міжрэлігійных сувязяў і сумеснага адказу на выклікі часу”. Уладыка Тадэвуш Кандрусевіч падкрэсьліў, што гэтым крокам Інстытут тэалогіі імя сьв. Мятода і Кірылы БДУ, дзе навучаюцца і выкладаюць таксама і каталікі, пацьвердзіў сваю традыцыю адкрытасьці ў дачыненьні да іншых веравызнаньняў.

# Бенядыкт XVI пра значэньне місіі сьвятых Кірылы і Мятода

***На гістарычную ролю сьвятых Кірылы і Мятода ў распаўсюджваньні хрысьціянства на землях славянскіх народаў, а таксама на іх першаснасьць ва ўкараненьні Евангельля ў культуры гэтых народаў зьвярнуў увагу Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI падчас агульнай аўдыенцыі ў Рыме 17 чэрвеня 2009 г. Па словах Пантыфіка, славяне зьяўляюцца “мостам паміж Усходам і Захадам”.***

“Сьвятыя Кірыла і Мятод добра разумелі значэньне слова ў сьведчаньні Аб’яўленьня. Яны жадалі, каб праз іх Хрыстос прамовіў да славянаў”, – адзначыў Пантыфік. Працягваючы цыкл катэхезаў пра значных асобаў Царквы, Сьвяты Айцец нагадаў пра лёсы абодвух братоў і іх пачынальніцкую місію ў Вялікай Маравіі. “Місія абвяшчэньня братамі Божага слова мела вялікі посьпех. Яе сьпецыфіка заключалася перш за ўсё ў дапасаваньні вучэньня Царквы да мясцовай культуры, ментальнасьці і мовы славянаў, – менавіта тым, што мы сёньня называем інкультурацыяй. Два браты былі ініцыятарамі перакладу Бібліі, літургічных тэкстаў і дакументаў Царквы на мову, зразумелую славянам”, – падкрэсьліў Бенядыкт XVI.

Папа Пій XI назваў Кірылу і Мятода сынамі Ўсходу, грамадзянамі Візантыі, па паходжаньні – грэкамі, а паводле апостальскіх плёнаў – славянамі. Слуга Божы Ян Павел II устанавіў іх, разам са сьвятым Бенядыктам, заступнікамі Еўропы. Сьвятыя Кірыла і Мятод зьяўляюцца прыкладам адкрытасьці на багацьце культур народаў, іх спадчыну і разнастайнасьць традыцыяў.

*Catholic.by*

# Кардынал Барбарэн:
# “Няхай Касьцёл у Беларусі захоўвае свой унікальны характар”

*Пра персьпектывы разьвіцьця адносінаў паміж Каталіцкім Касьцёлам у Беларусі і Францыі, пра міжрэлігійны дыялог, а таксама ўражаньні, якія выклікала Беларусь у архібіскупа Ліёнскага кардынала Філіпа Барбарэна,– у інтэрв’ю Catholic.by.*



***– Ваша Эмінэнцыя, якімі Вы бачыце персьпектывы ў разьвіцьці адносінаў паміж Каталіцкім Касьцёлам у Беларусі і Францыі?***

– Вялікае значэньне мае праграма “Эразм”. Паводле гэтай праграмы ва ўніверсітэце Ліёну навучаецца духавенства. Сярод іх шмат біскупаў, сьвятароў, напрыклад, з Германіі. З Мітрапалітам Кандрусевічам я час ад часу сустракаюся ў Рыме. Такія сустрэчы біскупаў маюць вялікае значэньне. А тыя кнігі, якія я прывёз у падарунак, таксама зьяўляюцца сур’ёзным адукацыйным момантам для разьвіцьця навучаньня і фармацыі духавенства тут, у Беларусі.

Важнымі зьяўляюцца пабрацімскія адносіны паміж дыяцэзіямі. Напрыклад, дыяцэзія Ліёну мае дыяцэзіі-сёстры: адна дыяцэзія ў Буркіна Фасо (Афрыка) і адна – у Ліване. Гэтыя дыяцэзіі-сёстры падтрымліваюць узаемасувязі і аказваюць адна адной дапамогу. Безумоўна, больш дапамогі ідзе з боку дыяцэзіі Ліёну.

***– Вас у сьвеце ведаюць як прыхільніка экуменічнага дыялогу. Што б Вы адказалі праціўнікам такога дыялогу?***

– Гэта цалкам супярэчыць волі Ісуса. У сваёй першасьвятарскай малітве, у вечар перад сваёю мукай Ісус, калі маліўся (як мы чытаем у Евангельлі паводле сьвятога Яна), прасіў, каб усе Яго наступнікі былі адно. Гэта – асноўная інтэнцыя Яго першасьвятарскай малітвы.

Вяршыняю літургічнага году зьяўляецца Вялікі тыдзень. Аднак, можна сказаць, што ў літургічным годзе ёсьць таксама другая вяршыня – Тыдзень малітваў за адзінства хрысьціянаў. Ісус вельмі рашуча перапыняе сваіх вучняў, калі тыя пачынаюць спрачацца адносна таго, хто з іх большы, хто з іх заслугоўвае большай пашаны. Увесь 18-ы разьдзел Евангельля паводле сьвятога Мацьвея прысьвечаны менавіта арганізацыйным пытаньням Царквы: калі вы будзеце шукаць, хто з вас большы, тады вы ніколі ня будзеце адным цэлым, і тады ніколі ня будзе Царквы.

У міжрэлігійным дыялогу асаблівае значэньне мае дыялог з юдаізмам, бо Ісус – гэта слава Ягонага народу, Ізраіля, і ўсе мы – каталікі, праваслаўныя, хрысьціяне самых розных веравызнаньняў – маем адзін супольны корань, якім зьяўляецца юдаізм. Калі параўноўваць, то можна сказаць, што юдаізм – гэта дом нашых дзядоў і бабуль.

Кожны дзень мы чытаем і молімся псальмамі, кожны дзень мы чытаем закон Майсея, чытаем прарокаў, і менавіта гэта зьяўляецца той платформай, тым фундаментам, на якім мы можам весьці дыялог з іншымі, таму што гэта аб’ядноўвае нас з іншымі хрысьціянскімі веравызнаньнямі. Гэта зьяўляецца адзіным для нас усіх.

Іншае таксама вельмі важнае і асаблівае месца ў міжрэлігійным дыялогу займаюць мусульмане, але, у адрозьненьне ад юдэяў, для нас тэксты Карану не зьяўляюцца сьвятымі. Мы не чытаем тэксты Карану і ня молімся на іх падставе. У мусульманаў, з іншага боку, мы можам павучыцца палымянасьці, іх насычанаму духоўнаму жыцьцю, іх прыгожым чалавечым адносінам, іх прыхільнасьці да міласьціны і дапамогі іншым. Назіраючы ў іншых рэлігіях самае лепшае, я магу таксама станавіцца лепшым у насьледаваньні Хрыста сваім шляхам – шляхам, вызначаным Хрыстом.

Напрыклад, у дыялогу паміж хрысьціянамі, юдэямі і мусульманамі важным момантам можа быць супольнае разважаньне над Божай міласэрнасьцю, і такім чынам, разважаючы над гэтым, мы можам дапамагаць адно аднаму, можам знаходзіць нейкія супольныя інтарэсы.

***– Якою Вы ўбачылі Беларусь? Якія ў Вас засталіся пра яе ўражаньні?***

– Для мяне вялікая радасьць трапіць сюды, таму што гэтая краіна вельмі гасьцінная, вельмі адкрытая і вельмі простая. Вельмі парадаваў гэты цёплы, заўсёды адкрыты прыём. Цешаць добрыя і прыязныя адносіны, якія тут існуюць паміж Каталіцкім Касьцёлам і Праваслаўнай Царквой. Горад таксама выглядае вельмі цудоўна, ён вельмі чысты. Людзі выглядаюць спакойнымі, што сапраўды вельмі важна. Вельмі прыемнае ўражаньне пакінула тое, што рэлігія тут у пашане, што да Мітрапаліта і да рэлігійных дзеячаў ставяцца з павагаю ў дзяржаўных структурах, у адрозьненьне ад Францыі, дзе хрысьціяне выклікаюць гнеў і часам нават нянавісьць. Безумоўна, тут ёсьць таксама свае пакуты, цярпеньні. Учора я наведаў Курапаты, тое месца, дзе Сталін забіў вельмі вялікую колькасьць людзей. Аднак, калі вы гаворыце пра тыя часы, пра зачыненыя ў тыя часы сьвятыні, вы гаворыце бяз горычы, бяз гневу, без раздражненьня, бяз жалю. І гэта паказвае, што вы жывеце сёньняшнім днём і тымі заданьнямі, якія ставіць перад вамі Ісус сёньня. “Господи, устне мои отверзеши, и уста моя возвестят хвалу Твою”, – гэтыя словы застануцца для мяне як памяць пра Беларусь. Кожную раніцу я буду іх паўтараць у сваіх малітвах.

***– Што б Вы пажадалі Касьцёлу ў Беларусі?***

– Няхай ён разьвіваецца ў супакоі, у міры. Няхай ён захоўвае свой асабісты, унікальны, уласьцівы толькі яму характар. Няхай ён знойдзе сваё годнае месца сярод сваіх суседзяў. Гісторыя яго дастаткова нядаўняя, і няхай яна знойдзе таксама сваё месца ў Еўропе.

***– Дзякуем за размову.***

# Кардынал Філіп Барбарэн маліўся ў Альбярціне

***7-10 чэрвеня 2009 г. Прымас Францыі, Архібіскуп Ліёну кардынал Філіп Барбарэн наведаў Беларусь. Напрыканцы візіту ў Беларусь – 9-10 чэрвеня французскі ярарх наведаў Жыровічы, Слонім ды Альбярцін.***



*• Слонім, 10.06.2009. Архібіскуп Ліёну, кардынал Філіп Барбарэн, правіць сьв. Імшу ў касьцёле сьв. Андрэя ля цудатворнай іконы Маці Божай Жыровіцкай.*

У касьцёле сьв. Андрэя ў Слоніме, дзе знаходзіцца копія цудатворнай Жыровіцкай іконы Багародзіцы, Кардынал Філіп узначаліў сьв. Імшу, якую разам са сьвятарамі лацінскага абраду саслужылі грэка-каліцкія сьвятары а. Андрэй Крот (Горадня), а. Андрэй Буйніч (Ліда) ды а. Алесь Шаўцоў (Полацак). На гэтай сьв. Імшы прысутнічалі вернікі Івацэвіцкай грэка-каталіцкай парафіі Жыровіцкай іконы Маці Божай і прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы, якія суправаджалі паважанага госьця.

У дэлегацыі разам з кардыналам Ф.Барбарэнам знаходзіліся французскія сьвятары-езуіты. Калі яны даведаліся, што знаходзяцца за некалькі кіламетраў ад Альбярціну, мясцовасьці, дзе ў 20-40-ыя гады ХХ стагоддзя дзейнічала Ўсходняя Місія айцоўезуітаў, яны вырашылі абавязкова туды наведацца. Як высьвятлілася, адзін з сьвятароў, што суправаджалі Прымаса Францыі, ведаў асабіста першага кіраўніка Ўсходняй Місіі – французскага сьвятара а. Васіля (Карла) Буржуа, SJ. (Таксама ў Альбярціне працаваў як кіраўнік навіцыяту выкладчык візантыйска-славянскай літургіі і адміністратар уніяцкай парафіі вядомы французскі багаслоў-экуменіст а. Філіп дэ Рэжы, SJ. – *Рэд.*).



*• Альбярцін, 10.06.2009. Кард. Барбарэн з членамі дэлегацыі ля памятнага крыжа айцам-езуітам*

У Альбярціне да групы грэка-каталіцкіх сьвятароў далучыліся яшчэ дэкан Усходняга протапрасьвітарату а. Зьміцер Грышан ды менскі душпастыр а. Яўген Усошын. Гісторыкі нашай Царквы а. Андрэй Крот і а. Яўген Усошын далі гасьцям з Ліёну кампетэнтнае гістарычнае паясьненьне значэньня Альбярцінскай Місіі.

У 1939 годзе, пасьля прыходу Саветаў, Усходняя Місія айцоў езуітаў страціла частку будынкаў, якія новая ўлада аддала вайскоўцам (у тым ліку ўніяцкую царкву), а цалкам яна спыніла сваё існаваньне пасьля мучаніцкай сьмерці ў 1943 годзе ў менскіх засьценках гестапа а. Антона Неманцэвіча, які быў экзархам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

Сустрэча закончылася малітвай ля мемарыяльнага крыжа, усталяванага грэка-католікамі на 400-ыя ўгодкі Уніі, у памяць пра айцоў-езуітаў, якія працавалі ў Альбярціне.

**Павел ДАЙЛІД**

*г. Івацэвічы*

# Юбілеі Апостальскага Візітатара БГКЦ

⇨ Пачатак на с. 2

У працы *“Catholic Fraternity”* – ватыканскай платформы, якая ад імя Папскай Рады па справах сьвецкіх católікаў каардынуе дзейнасьць “новых супольнасьцяў” – Архімандрыт Сяргей прадстаўляе Ўсходнія Каталіцкія Цэрквы ды заангажаваны ў рэалізацыі розных евангелізацыйных праектаў у Еўропе, Аргентыне і Бразіліі.

Таксама ён бярэ ўдзел у працы ACCSE/2000 – Асацыяцыі каардынатараў каталіцкіх школаў евангелізацыі і ў працы WACOM (*World Apostolic Congress on Divine Mercy)* – Сусьветнага кангрэсу Божай міласэрнасьці.

Архімандрыт Сяргей (Гаек) прадстаўляе БГКЦ на кансультацыйных сустрэчах усходніх каталіцкіх ярархаў Еўропы (CHOCE).



• Пінск, 31.05.2009. Канцэрт-праслаўленьне, наладжанае супольнасьцю "Маран ата" ля катэдры падчас начнога чуваньня перад сьвятам Зыходу Сьвятога Духа.









# Начное чуваньне ў пінскай катэдры

***На пяцідзясяты дзень пасьля Вялікадня Каталіцкая Царква адзначае сьвята Зыходу Сьвятога Духа. У ноч з 31 траўня на 1 чэрвеня 2009 году ў катэдральным касьцёле Унебаўзяцьця Найсьвяцейшай Панны Марыі ў Пінску адбылося начное чуваньне. Сярод удзельнікаў чуваньня была парафіяльная моладзь з Пінску і семінарысты, грэка-католікі з Берасьця і Пінску, таксама прысутнічала моладзь з Баранавічаў, Лагішына і Кобрыня.***

Літургічнае сьвяткаваньне ўсіх урачыстасьцяў Царква пачынае ўжо ўвечары папярэдняга дня (т. зв. вігілія), пераймаючы такім чынам старажытную габрэйскую традыцыю. Вернікі, што сабраліся разам, каб падрыхтавацца да Пяцідзясятніцы, былі падобныя да апосталаў і Багародзіцы, якія чакалі спасланьня Духа Сьвятога. А 21-й гадзіне канцэртам-праслаўленьнем перад пінскай катэдрай распачалі чуваньне берасьцейскія грэка-католікі з супольнасьці "Маран ата". Значная колькасьць з тых, хто слухаў гэтыя сьпевы, былі жыхары Пінску, што зацікавіліся мелодыямі, якія гучалі каля катэдральнага касьцёлу. Удзельнікі супольнасьці "Маран ата" на працягу паўтары гадзіны сьпявалі рэлігійныя песьні на розных мовах, а таксама танчылі.

Пасьля выступу гасьцей з Берасьця, клерыкі Міждыяцэзіяльнай Вышэйшай Духоўнай Семінарыі імя сьв. Тамаша Аквінскага ў самім касьцёле паказалі тэатральную пастаноўку, прысьвечаную асобе сьвятога Паўла. У гэтай інсцэніроўцы коратка паказваліся выбраныя эпізоды з біяграфіі Апостала народаў, год якога адзначаўся ў Каталіцкай Царкве. Пасьля імпрэзы распачалася сьвятая Імша, якую служыў кс. Эдуард Мігай, пракуратар семінарыі ў Пінску, які арганізаваў начное чуваньне. У сваёй гаміліі ён таксама расказаў пра сэнс урачыстасьці Пяцідзясятніцы і пра ролю Духа Сьвятога ў жыцьці кожнага чалавека.

Пасьля Еўхарыстыі надышоў час адарацыі, падчас якой удзельнікі чуваньня разважалі над дарамі Духа Сьвятога. Далейшы працяг чуваньня праходзіў пры нястомнай падтрымцы семінарыйнага музычнага гурта "Подых Духа". Адмыслова для гэтай падзеі гурт падрыхтаваў адпаведныя сьпевы. Закончылася чуваньне на сьвітаньні, са стомай пасьля ночы бяз сну, але з радасьцю і надзеяй, якую дае Дух Сьвяты.



**Кірыл БАРДОНАЎ**

*г.Пінск*



# “Дрэва Вясны” – у памяць пра беларускіх мучанікаў

***У Вялікую суботу ў Менску ў дворыку Грэка-каталіцкага цэнтру імя сьв. Язэпа на ўспамін мучаніцкага подзьвігу беларускага грэка-каталіцкага Экзарха Антона Неманцэвіча быў устаноўлены кава-ны помнік у выглядзе дрэва.***



*• Архімандрыт Сяргей Гаек разам з бярозаўскімі майстрамі – Міхасём Казловічам (зьлева) і Ігарам Буранкам ля каванага дрэва-помніка.*

Вялікая субота 11 красавіка 2009 году ў грэка-каталіцкай парафіі сьв. Язэпа ў Менску, акрамя чаканьня галоўнай падзеі хрысьціянскага жыцьця – Уваскрасеньня Хрыстовага, – была таксама днём асаблівага ўшанаваньня і малітоўнага ўспаміну мучанікаў Грэка-Каталіцкай Царквы. У Вялікую суботу ў капліцы Усіх сьвятых беларускага народу грэка-католікі Менска ў малітве перад Плашчаніцай Гасподняй асабліва ўзгадвалі экзарха-мучаніка а. Антона Неманцэвіча, SJ.

“Дрэва Вясны” – так назвалі свой мастацкі твор у яго памяць майстры-кавалі з Бярозы: праваслаўны Міхась Казловіч і грэка-каталік Ігар Буранка. Пасьля ўрачыстай працэсіі і малітвы за Беларускі народ у падмурак помніка была закладзеная капсула з зямлёй з месца пахаваньня кіраўніка Беларускага Грэка-Каталіцкага Экзархату. На жаль, магіла экзарха-мучаніка не захавалася. Бязбожная савецкая ўлада на месцы могілак, дзе быў пахаваны ў 1943 годзе замучаны ў менскай вязьніцы СД а. Антон Неманцэвіч, зрабіла скверык вуліцы Карла Лібкнехта, дзе сёньня звычайна выгульваюць сабак, а вечарам моладзь п’е піва...

Але хрысьціяне ня вераць у сьмерць, яны вераць ва Ўваскрасеньне і жыцьцё вечнае! Вераць, што і наш экзарх-мучанік вечна жывы і моліцца за нас разам з усімі сьвятымі ў нябесным Валадарстве нашага Айца.

У сваім Пастырскім слове з нагоды сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі архім. Сяргей (Гаек) падкрэсьліў: “Мы глыбока верым, што праз мучаніцкі подзьвіг блаславёнага Ўладыкі Мікалая [Чарнецкага] і сьветлай памяці Экзарха Антона, а таксама праз умацаваных Духам Сьвятым адважных ды руплівых безыменных сьвятароў, манахаў, манахіняў і сьвецкіх вернікаў, якія ў час савецкага перасьледу маліліся падпольна ў Слоніме, Лагішыне, Пінску ды іншых мясьцінах, нашая Царква захавала пераемнасьць аж да часу, калі ўжо ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь у 1990 г. грэка-каталіцкія парафіі змаглі аднавіць душпастырскую дзейнасьць. Жыватворчы і духаносны Крыж Хрыста стаў сапраўды знакам перамогі”.



*• Менск, 11.04.2009. Закладка капсулы з зямлёй з месца пахаваньня Беларускага Экзарха Грэка-Каталіцкай Царквы а. Антона Неманцэвіча.*

# Падзеі лета

• **24-26 ліпеня 2009 году ў Івянцы адбудзецца малітоўная сустрэча моладзі.** Сёлета яе ўдзельнікі будуць разважаць на тэму сакрамантаў хросту і мірапамазаньня. Падчас сустрэчы ў Івянцы моладзь ушануе абраз Ісуса Міласэрнага і рэліквіяў блаславёнага Міхала Сапоцькі. У праграме малітоўнай сустрэчы моладзі запланаваныя сьвятая Еўхарыстыя, адарацыя Найсьвяцейшага Сакраманту, катэхеза, сьведчаньні ўдзельнікаў, а таксама выступленьне знакамітых хрысьціянскіх музычных калектываў з Польшчы *“Arka Noego” і “2 Tm 2, 3” (“Tymoteusz”)*. Падчас малітоўнай сустрэчы адбудзецца індывідуальнае аднаўленьне абяцаньняў хросту.

• **Каранацыя папскімі каронамі іконы Маці Божай Браслаўскай – Валадаркі азёраў 21-22 жніўня 2009 году** – адна з важных сёлетніх падзеяў у Каталіцкай Царкве ў Беларусі. Гэты абраз раней знаходзіўся ў грэка-каталіцкім манастыры, які ў 1832 годзе згарэў ад удару маланкі. Абраз цудоўным чынам ацалеў, і ўжо больш за сто гадоў ён захоўваецца ў браслаўскім касьцёле. Плануецца, што на ўрачыстасьць у Браслаў прыбудуць каля 20 біскупаў, тры кардыналы, а цырымонію каранацыі на яхце зьдзейсьніць кардынал Ёахім Майснэр, Мітрапаліт Кёльнскі. Акрамя беларускіх ярархаў мяркуецца ўдзел біскупаў з Літвы, Латвіі, Украіны, Расеі, Германіі, Польшчы, Італіі і ЗША.



“Дзякую Богу за Яго ласкавасьць да мяне. Акрамя Неба, гэта адзінае месца, у якім жадаў бы я быць. Мы тут усе роўныя – палякі, габрэі, украінцы, расейцы, літоўцы, эстонцы... Зараз я тут адзіны сьвятар. Не ўяўляю сабе, што б яны рабілі без мяне. Тут я бачу Бога – Бога, Які ёсьць адзін для ўсіх, не зважаючы на нашыя рэлігійныя адрозьненьні. Можа, нашыя Цэрквы розьняцца між сабою, але ва ўсіх іх валадарыць той самы Ўсемагутны Бог. Калі я адпраўляю Літургію, усе яны моляцца. Моляцца рознымі мовамі – але хіба Бог не разумее ўсіх моваў? Паміраюць па-рознаму, і я дапамагаю ім перайсьці гэты мост. Хіба гэта не блаславеньне? Ці ж гэта не найбольшы вянец, які мог мне ўскласьці на галаву мой Госпад? Так! Кожнага дня тысячы разоў дзякую Богу, што Ён паслаў мяне сюды. Не прасіў бы Яго пра большае. Ня плачце па мне – радуйцеся са мною! Маліцеся за стваральнікаў канцлагеру ды аўтараў гэтае сістэмы. Ім патрэбныя вашыя малітвы... Няхай Бог зьмілуецца над імі...”

***З апошняга ліста з канцлагеру а. Амільяна КОЎЧА.***

# Зямля з месца мучаніцтва блаславёнага Амільяна Коўча будзе захоўвацца ў храме БГКЦ у Берасьці

***27 чэрвеня ў літургічным календары Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы адзначаецца памяць блаславёнага сьвятамучаніка Амільяна (Коўча). Сёлета, з нагоды 65-й гадавіны сьмерці гэтага грэка-каталіцкага сьвятара на месцы былога канцэнтрацыйнага лагеру Майданэк у Польшчы, дзе ён загінуў, быў асьвячаны абеліск (камень) з пасланьнем Блаславёнага: “…Тут я бачу Бога – Бога, Які ёсьць адзін для ўсіх, не зважаючы на нашыя рэлігійныя адрозьненьні”. Для ўшанаваньня памяці “параха Майданэка”, як называлі вязьні а.Амільяна Коўча, у Люблін 25 сакавіка 2009 году зьдзейсьніла пілігрымку духавенства Ўкраінскай Грэка-Каталіцкай Царквы на чале з біскупамі, да якіх далучыліся сьвятары і вернікі з Польшчы, а таксама з Беларусі.***

Мемарыяльную ўрачыстасьць у люблінскім прадмесьці Майданэк, дзе ў вайну ў канцлагеры загінула каля 70 тыс. чалавек (з іх 2/3 – габрэі) з 30 краінаў, узначалілі Зьверхнік Грэка-Каталіцкай Царквы ў Польшчы мітрапаліт Перамышальска-Варшаўскі Ўладыка Ян (Мартыняк) ды рымака-таліцкі архібіскуп-мітрапаліт Люблінскі Юзаф Жыцінскі, якія разам асьвяцілі помнік. Ад Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы на ўрачыстасьцях у Любліне былі Апостальскі Візітатар Архімандрыт Сяргей (Гаек) і душпастыр грэка-каталіцкай парафіі ў Берасьці а. Ігар Кандрацьеў.

У мерапрыемстве бралі ўдзел віцэ-прэм’ер Украіны Іван Васюнік і віцэ-міністр культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы Пётр Жухоўскі (яны разам зьдзейсьнілі адкрыцьцё абеліску з памятнай табліцай), а таксама прадстаўнік Сакратарыяту Прэзідэнта Польшчы, прадстаўнікі мясцовых органаў улады, дыпламатычнага корпусу, габрэйскай грамады. Гэтую падзею шырока асьвятлялі польскія, украінскія, а таксама габрэйскія СМІ.

Мемарыяльныя ўрачыстасьці распачаліся з малітвы за ўсіх, хто загінуў у канцлагеры Майданэк. Потым быў зачытаны Дэкрэт Першаярарха УГКЦ Яго Блаславенства Кір Любаміра (Гузара). “Усіх сьвятароў ды душпастыраў нашай Царквы заклікаю ў сваім жыцьці ды служэньні ўспадкоўваць прыклад гэтага нашага сабрата ў сьвятарстве”,– напісаў у дакуменце Кір Любамір.

Пасьля гэтага прадстаўнікам 15-ці япархіяў і экзархатаў УГКЦ з Украіны і Польшчы ды Апостальскай Візітатуры БГКЦ быў перададзены прах Блаславёнага (зямля з канцлагеру ў Майданэку). Ва Ўкраіне ён будзе зьберагацца ў катэдральных храмах УГКЦ у Кіеве, Львове, Тарнопалі, Івана-Франкоўску, Драгобычы, Каламыі, Стрыі, Сокалі, Жоўкве, Чарткове, Луцку, Адэсе і Данецку, у Польшчы – у храмах Перамышлю і Ўроцлава, а ў Беларусі – у царкве сьв. братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасьці.

Царква ў Берасьці была выбрана Апостальскім Візітатарам Архімандрытам Сяргеем (Гаекам) месцам асаблівага ўшанаваньня памяці блаславёнага сьвятамучаніка Амільяна Коўча як найбліжэйшы да Майданэка храм БГКЦ. Акрамя таго, у час II Сусьветнай вайны з Берасьця ў фашысцкі канцлагер Майданэк было адпраўлена шмат жыхароў Беларусі – ахвяраў нацызму, у тым ліку беларускіх дзяцей.

Адразу пасьля ўрачыстасьцяў у Любліне – 25 сакавіка, у сьвята Дабравешчаньня і Дзень малітваў за Бацькаўшчыну – на сьвяточнай Боскай Літургіі ў Берасьці, якую ўзначальваў Апостальскі Візітатар БГКЦ, вернікам быў зачытаны акт перадачы зямлі з канцлагеру ў Майданэку, дзе прыняў мучаніцкую сьмерць бласл. Амільян



*• 25.03.2009, Майданэк. Галоўны захавальнік музею Майданэка спн. В.Зьлёт перадае зямлю-попел з канцлагеру а. І.Кандрацьеву.*

Коўч. Архімандрыт Сяргей у сваім казаньні расказаў пра хрысьціянскае сьведчаньне гэтага выдатнага грэка-каталіцкага сьвятара. Айцец Ігар Кандрацьеў прапанаваў парафіянам абавязкова паглядзець фільм “Парах Майданэка”, зьняты польскай тэлевізіяй пра бласл. Амільяна Коўча, які ён прывёз пасьля ўрачыстасьцяў у Майданэку.

Постаць блаславёнага Амільяна Коўча (1884-1944) незвычайная – ён здолеў сьмела перакрочыць нацыянальныя і канфесійныя межы, стэрэатыпы і крыўды дзеля ўратаваньня чалавечай годнасьці і славы Госпада.

Нарадзіўся Амільян Коўч 20 жніўня 1884 году ў с. Космачы (Івана-Франкоўская вобл., Украіна). У 1905-1911 гг. меў багаслоўскія студыі ў Рыме ў Рускай калегіі (*Collegium Ruthenum*). У 1911 годзе быў высьвячаны на сьвятара. У час 1-ай Сусьветнай вайны працаваў у парафіях у Босьніі і ў Галіцыі, быў вайсковым капеланам і двойчы трапляў у палон (да бальшавікоў і палякаў), дзе захварэў на тыф. Затым больш за 20 гадоў ён аддана і ахвярна працаваў душпастырам у мястэчку Перамышляны на Львоўшчыне, што за 7 км ад славутай Уніўскай лаўры, дзе жылі поруч украінцы, палякі і габрэі. Быў бацькам шасьці дзяцей, двое з якіх сталі сьвятарамі.

Будучы ўкраінскім патрыётам, перасьледаваўся польскімі ўладамі за сваю рэлігійна-асьветніцкую дзейнасьць, каля сарака разоў у яго праводзілі вобшук. Але, калі прыйшлі саветы, ён заклікаў сваіх парафіянаў ня помсьціцца на паляках, а калі пачаліся арышты і дэпартацыі іх, асабліва сярод былых чыноўнікаў і ўрадоўцаў, ён дапамагаў выжыць сем’ям рэпрэсаваных ня толькі маральна, але і матэрыяльна. Ён заўсёды заставаўся прыкладам шчырай веры, моцна трымаўся хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, асабліва адважна бараніў іх падчас савецкай і нямецкай акупацыі, праяўляў шчырую любоў і адкрытасьць да кожнага чалавека незалежна ад ягонай нацыянальнай ці рэлігійнай прыналежнасьці і вучыў гэтаму сваіх парафіянаў. Перад самым прыходам гітлераўцаў быў арыштаваны НКВД, і толькі пачатак вайны выратаваў яго.



PAŃSTWOWE MUZEUM NA MAJDANKU

VI-4010-15/2009

АКТ ПЕРАДАЧЫ

№ 118

Дзяржаўны музей на Майданку, у асобах Дырэктара Тамаша Кранца і Галоўнага Захавальніка Веславы Злёт, перадае на рукі а. Ігара Кандрацьева, які прадстаўляе Апостальскую Візітатуру для грэка-католікаў Беларусі, зямлю з былога нацысцкага канцэнтрацыйнага лагера на Майданку ў Любліне.

Гэтая зямля перадаецца ў 65-я ўгодкі смерці Бласлав. а. Амільяна Коўча, вязня Майданку, з мэтай захавання яе ў царкве свв. Братоў Апосталаў Пятра і Андрэя ў Берасці (Брэсце).

PAŃSTWOWE MUZEUM NA MAJDANKU

Галоўны Захавальнік
Веслава Злёт

Дырэктар
Томаш Кранз

• *Акт перадачы царкве ў Берасьці зямлі з канцлагеру Майданэк, дзе загінуў блаславёны сьвятамучанік Амільян (Коўч).*

У вайну ўвесь час намагаўся працаваць для ратаваньня чалавечай годнасьці людзей. Аднойчы ён нават вызваліў габрэяў з падпаленай фашыстамі сінагогі, загадаўшы нямецкім жаўнерам адчыніць дзьверы. Айцец Амільян нават не пабаяўся зьвярнуцца з адкрытым лістом да самога Гітлера, у якім асуджаў масавыя забойствы габрэяў (якіх ён ратаваў як мог) і прасіў дазволу адведваць іх у гета. Увесну 1943 году ён быў увязьнены гітлераўцамі і кінуты спачатку ў турму ў Львоў, дзе ад яго вымагалі, каб адмовіўся ад дапамогі габрэям, а калі ён не пажадаў выракацца сваіх перакананьняў – яго зьмясьцілі ў канцлагер Майданэк. У сваіх таемных лістах з канцлагеру а. Амільян прасіў сям’ю, каб не рабілі спробаў для яго вызваленьня, бо сваё знаходжаньне ў канцлагеры ён успрымаў як Божы дар і сваім абавязкам лічыў падтрыманьне на духу братоў па няволі. Свой жыцьцёвы шлях блаславёны сьвятамучанік Амільян закончыў у канцлагеры Майданэк 25 сакавіка 1944 году – ён быў атручаны газам і спалены фашыстамі ў крэматорыі.

Габрэйская Рада Ўкраіны 9 верасьня 1999 году надала а. Амільяну Коўчу тытул “Праведніка Ўкраіны”, цяпер разглядаецца пытаньне вызнаньня яго “Праведнікам народаў сьвету”. 27 чэрвеня 2001 году ў Львове яго беатыфікаваў Папа Рымскі Ян Павел II. У верасьні 2008 году Сінод Біскупаў УГКЦ пастанавіў абвясьціць блаславёнага сьвятамучаніка Амільяна Коўча Заступнікам душпастыраў УГКЦ. Гэтае ўрачыстае абвяшчэньне і асьвячэньне іконы блаславёнага сьвятамучаніка адбылося 24 красавіка 2009 году на Архірэйскай Літургіі ў Кіеве на месцы будаўніцтва Патрыяршага цэнтру УГКЦ, у прысутнасьці ўсіх біскупаў УГКЦ з Украіны і Польшчы, а таксама шматлікіх вернікаў, духавенства і замежных гасьцей. Сёлета, у Год сьвятарства, які нядаўна распачаўся, у кожнай япархіі і экзархаце УГКЦ запланаваныя ўрачыстасьці, на якіх будзе распавядацца пра прыклад хрысьціянскага жыцьця і служэньня гэтага грэка-каталіцкага сьвятара.



• *25.03.2009, Майданэк (Польшча). Малітва падчас мемарыяльных урачыстасьцяў.*

Сёлета, 20 жніўня, будуць адзначацца яшчэ і 125-ыя ўгодкі з дня нараджэньня блаславёнага сьвятамучаніка Амільяна Коўча.

Паводле словаў Зьверхніка УГКЦ кардынала Любаміра Гузара, блаславёны Амільян Коўч быў сынам і сьвятаром аднаго народу, загінуў на зямлі другога народу, бо ратаваў жыцьцё сыноў і дачок трэцяга народу. Сёньня выдатная постаць блаславёнага сьвятамучаніка Амільяна Коўча зьбірае шматлікіх вернікаў у Майданэку ў польскім Любліне і ў Перамышлянах ва Ўкраіне ня толькі для ўшанаваньня памяці гэтага выдатнага мужнага сьвятара. Дзякуючы яму ды праз яго заступніцтва гэтыя сустрэчы вернікаў розных краінаў спрыяюць экуменічнаму дыялогу, прымірэньню і паяднаньню народаў. Хочацца верыць, што і ў Берасьці, на беларуска-польска-украінскім памежжы, дзе цяпер будзе захоўвацца памятка пра а. Амільяна Коўча ў выглядзе капсулы з зямлёй з канцлагеру ў Майданэку, гэтыя традыцыі дыялогу і супрацоўніцтва будуць разьвівацца і ўмацоўвацца. Няхай яго прыклад дапамагае і нам перакрочваць стэрэатыпы і абмежаванасьць у нашых сэрцах дзеля праслаўленьня адзінага Бога.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

**Г.Піхура (Гай дэ Пікарда)**

# Царкоўная музыка на Беларусі

### *2. Перыяд Віленскай Акадэміі (1620-1700)*

Ва Ўніяцкай Царкве базыльянскія манахі адыгралі вялікую ролю ў галіне царкоўнай музыкі. У 1609 г. да іх перайшоў манастыр сьв. Тройцы ў Вільні; у 1613 г. яны атрымалі манастыр у Жыровіцах, а ў 1627 г. у Супрасьлі. Творы Мяльчэўскага мелі вялікі посьпех ў Беларусі і па-за яе межамі: у Маскоўшчыне імі захапляўся сам патрыярх Нікан.[1] Базыльяне мелі практычна манаполію друку літургічных музычных кнігаў. З каралеўскага двара ў Кракаве і Варшаве ў Вільню прыбывала нямала ведамых музыкаў: Марцін Мяльчэўскі, Станіслаў Ружыцкі, напэўна адведалі Вільню; а Мікола Замарэвіч і Іван Зюскі там выкладалі. Іхніх лекцыяў слухалі шматлікія вучні ня толькі з Беларусі, але таксама з Польшчы, Кіева і Маскоўшчыны. Такім чынам, цераз сваіх студэнтаў яны мелі вялікі ўплыў на разьвіцьцё царкоўнай музыкі ва ўсіх гэтых краінах. У Вільню з Кіева прыйшоў Мікола Дылецкі (каля 1630-1690), найбольш выбітны прадстаўнік Віленскай музычнай школы.[2] Хоць быў ураджэнцам Кіева, Дылецкі большую частку свайго жыцьця правёў у Беларусі. Ён студыяваў у Мяльчэўскага, Замарэвіча і Зюскага "царкоўныя сьпевы Рымскай і Праваслаўнай цэркваў" у Кіеве і Варшаве. Пасьля ён стаўся сябрам Віленскай Акадэміі і "прачытаў шмат кніг пра музыку". У 1677 г. выйшла папольску ягоная праца з тэорыі музыкі пад назовам "Тога Злота".[3] У 1679 г. выйшла другое выданьне гэтай кнігі ў Смаленску, "ператлумачанае на славянскі дыялект"; а трэцяе выданьне ўбачыла сьвет у Маскве ў 1681 г. У гэтай кнізе Дылецкі займаецца асновамі заходняй паліфоніі, а ў асаблівасьці Вэнэцкай барокавай школы.[4] Тлумачэньне яе на расейскую мову мела вялікі ўплыў на ўвядзеньне заходняй музыкі ў Маскву. У 1675 г. Дылецкі, як і шмат іншых ягоных землякоў, выехаў у Маскву, дзе займаў становішча рэгента ў прыватнай капліцы князя Рыгора Строганава, які быў вялікім прыхільнікам царкоўнай музыкі ў заходнім стылі. Дылецкі ёсьць менш ведамы як кампазітар. Захаваўся рукапіс ягонай адной "Херувімскай" у адным зборніку з 1690-96 гг., які цяпер знаходзіцца ў музеі ў Цьверы.[5]

З іншых ведамых беларускіх сьпевакоў гэтага часу трэба ўспомніць Яна Дзякоўскага, Яна Коклю з Полацку (каля 1657 г.) і дзяка Тызэнгаўза з Вільні (каля 1637 г.). Коклеў сьпеў выклікаў подзіў у маскоўскага цара Аляксея Раманава, які запрапанаваў Коклю ўступіць да яго на службу.[6] На ўсходзе Беларусі Унія распаўсюджвалася больш павольна, і шмат праваслаўных мастакоў і вернікаў, хутчэй чым паддацца "лацінскай ерасі", шукалі апекі ў маскоўскага цара. Нягледзячы на неспакойныя часы, царкоўная музыка працьвітала, асабліва ў аколіцах Магілёва, дзе было запісана шмат напеваў. Некалькі ірмалогіянаў было ўложана ў Віцебску, асабліва ў Маркавым манастыры.[7] Куцеінскі манастыр каля Воршы славіўся сваімі музычнымі рукапісамі і сваёй друкарняй. Шмат каштоўных рукапісаў было вывезена ў 1654 г. у Маскву ў Іверскі манастыр, адкуль яны пасьля знайшлі дарогу ў бібліятэку патрыярха Нікана ў Новым Ерусаліме.[8]



• *Настаўнік навучае харыстаў лінейнага сьпеву. Палова XVII ст. З кнігі Дылецкага "Музикійская Граматика").*

Смаленск меў сваю музычную школу (Смаленскі напеў), і арганісты Казімерка Васілеўскі (каля 1670 г.) здабыў сабе там славу перад тым, як выехаць у Маскву.

У часе войнаў з Маскоўшчынай, якія прадаўжаліся аж да канца XVII ст., шмат сьпевакоў выехала з Беларусі ў Маскву. Цэлыя манастыры ў Маскве, як Іверскі і Новадзявічы, складаліся з беларусаў і далі свае назовы цэламу раду "літоўскіх" напеваў ("Вяцкі", "Старасімонаўскі", "Іверскі" і г. д.). У архівах маскоўскіх хораў можна знайсьці імёны многіх сьпевакоў з "Літвы", шмат з якіх, як Ян Канюхоўскі і Ян Календа, былі без сумніву беларусамі.[9]




• *"Херувімская" – Віленская Акадэмічная школа (XVII ст.).*

Пачатак у № 3 (58), 4 (59) за 2008 г., № 1 (60) за 2009 г.

Адным з такіх ведамых беларусаў быў Андрэй Беражанскі. Ён быў сьпеваком у хоры, які ў 1652 г. прыехаў у Маскву з Кіева.[10] Маскоўскія князі і япіскапы стараліся адзін перад другім, каб мець у сваіх хорах сьпевакоў з Вільні і Кіева. Патрыярх Нікан быў вялікім прыхільнікам "штучнага сьпеву". Ён меў у сябе хор з пяці сьпевакоў "з Польшчы", якія сьпявалі нават па лаціне.[11] Нікан адмоўвіўся, не без ваганьняў, ад арганаў, аднак прысутнасьць у Маскве арганістага Казімеркі Васілеўскага паказвае, як далёка зайшла там заходняя мода, нягледзячы на патрыяршую забарону. Сірыйскі дыякан Павел з Алеппа, які наведаў Маскоўшчыну ў 1656 г., успамінае аб вялікім ліку "чужынцаў" у маскоўскіх царкоўных хорах.[12]

Новы стыль сьпеву з ягонымі прывабнымі мелодыямі і, для маскоўскіх вушэй, новай гарманізацыяй, аказаўся такім папулярным, што ўрэшце выціснуў зусім з ужытку стары Знаменны расьпеў і распачаў новы перыяд "польскага" ўплыву ў маскоўскай царкоўнай музыцы, які трываў аж да 1725 г.

Ня толькі літургічныя напевы з Вільні аказаліся так папулярнымі, але таксама калядкі, канты з Багагласьнікаў і псальмы ўвайшлі ў маскоўскія саборныя хоры і царскія капліцы. Метрычныя псальмы Сымона Пятроўскага-Сітняновіча з Полацку (1629-1680) былі згарманізаваныя на тры галасы згодна з беларускай традыцыяй адным з маскоўскіх вучняў Дылецкага, Васілём Цітавым.[13]

(Далей будзе)

*Друкуецца паводле часопісу "Божым шляхам" за 1964 г. (№ 83, сакавік-красавік, с. 8-14; № 84, травень-чэрвень, с. 4-10; № 85, ліпень-жнівень, с. 5-7).*
*Захаваны асаблівасьці лексікі аўтара, выпраўлены памылкі і правапіс асобных словаў ды скаротаў.*

1. Н. Финдейзен, op. cit. С. 293, нататка 354.
2. Н. Финдейзен, op. cit. С. 293.
3. *Поўны назоў кнігі ёсьць наступны: "Toga Złata w nowej swiata metamorphosi szlachetnemu magistratowi Wilenskiemu na nowy rok przez Mikołaja Dileckiego akademika Wilenskiego ogłoszona w Wilnie, typis Franciskanis anno 1675".* Cf. K. Streicher. Bibliografia polska. Tom XV. S. 207.
4 С. Смоленский. Музикийская грамматика Н. Дилецкаго. Общ. Люб. Древ. Пис.– СПб, 1910.
5. Н. Финдейзен, op. cit. С. 327 і наст.
6. А. Преображенский. Культовая музыка. С. 43-44.
7. G. Pichura, op. cit. P. 413-414.
8. Гэтыя кнігі знаходяцца ў біблятэцы Гістарычнага музею ў Маскве. Гл. "Каталог Собрания Знаменных и Нотных Рукописей Синодального Училища Церковного Пения" № 1359-1381.
9. Н. Финдейзен, op. cit. С. 308-309.
10. *"Он описал в Москве белорусскую книгу "Лифос", и жил первоначально на Троицком Подворье в Московском Кремле – а потом в Голутвиной Слободе за Москвой рекой". Гл.:* Разумовский, op. cit. С. 210.
11. Разумовский, op. cit. С. 189.
12. *Калі ён быў у Маскве ў 1656 г., Павел з Алеппа адведаў "рускіх" манашак, якіх нядаўна пасяліў цар Аляксей у Новадзявічым манастыры. Ён быў захоплены іхнім сьпевам: "У часе калі мы пакланяліся іконам. яны (г. зн. манашкі) сьпявалі "Аксіон эстін" і гармонія тонаў і іхніх салодкіх галасоў была цудоўная". Гл.:* Paul of Aleppo. The Travels of Macarius, Patriarch of Antioch.– London, 1829. Vol. II. P. 271-272.
13. Н. Финдейзен, op. cit. С. 294-302.

# 200-ыя ўгодкі сьмерці мітрапаліта Лісоўскага



***30 жніўня спаўняецца 200 гадоў з дня сьмерці ўніяцкага мітрапаліта Іраклія Лісоўскага. Яго галоўнай заслугай стала тое, што ў тых складаных і неспрыяльных царкоўна-палітычных умовах, у якіх апынулася Зьяднаная Царква ў Расейскай імперыі, ён праявіў сябе як шчыра адданы Апостальскаму Пасаду і ідэі Еднасьці, як дбайны і руплівы пастыр.***

Цалкам пазбаўлены нармальнай сувязі з Апостальскай Сталіцай у Рыме, ён здолеў зьберагчы ад зьнішчэньня Ўніяцкую Царкву ў Расейскай імперыі пасьля скасаваньня ў 1795 г. Кіеўскай зьяднанай мітраполіі пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай. Стаўшы яе фактычным адміністратарам у Расеі, ён выявіў сябе дзейным і мудрым кіраўніком. Не зважаючы на супрацьдзеяньне як праваслаўных, так і тагачаснага рыма-каталіцкага мітрапаліта Сестранцэвіча, які выступаў за перавод уніятаў у рыма-каталіцтва, а таксама неразуменьне Рымскай курыі, архібіскуп Лісоўскі нават дабіўся ўмацаваньня Зьяднанай Царквы, дамогшыся ад цара аднаўленьня ў 1806 г. скасаванай раней мітраполіі, праўда, ужо без шматлікіх парафіяў у Галіцыі, дзе, паводле рашэньня Апостальскай Сталіцы, была створана самастойная мітраполія. Дбаючы пра лёс Царквы пасьля сваёй сьмерці, мітрапаліт Іраклі Лісоўскі прызначыў свайго наступніка Рыгора Кахановіча.

Архібіскуп Полацкі Іраклі Лісоўскі, "мітрапаліт усіх зьяднаных цэркваў у Расеі", прыкладаў вялікія намаганьні, каб Уніяцкая Царква ня толькі аднавіла сваё ўсходняе аблічча, але і перастала быць "другараднай Царквою" і магла карыстацца ўсімі належнымі правамі і прывілеямі. Таксама ўладыка шмат дбаў пра асьвету сьвецкага ўніяцкага духавенства і ў 1806 г. заснаваў для яго епархіяльную семінарыю.

Памёр мітрапаліт Іраклі Лісоўскі ў 1809 годзе на 75-ым годзе жыцьця ў сваёй архімандрыі сьв. Анупрэя пад Мсьціславам. Пахаваны ён быў у Струні каля Полацку, у старой рэзідэнцыі полацкіх уладык, дзе цяпер штогод, ля ўстаноўленага памятнага крыжа, моляцца ўдзельнікі пілігрымкі з Віцебску ў Полацак.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Полацкі сабор 1839 году – пераломная дата беларускай гісторыі

***Круглы стол, прысьвечаны 170-годдзю полацкага царкоўнага сабору 1839 году, быў арганізаваны падчас II Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Хрысьціянства ў гістарычным лёсе беларускага народу", якая праходзіла ў Горадні 6-7 траўня 2009 году ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы.***

Ініцыятарамі канферэнцыі і круглага стала выступілі катэдра гісторыі Беларусі ГрДУ сумесна з Інстытутам філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Канферэнцыя сабрала звыш 70 гуманітарыяў: гісторыкаў, філосафаў, культуролагаў, філолагаў, сацыёлагаў, краязнаўцаў, музейных і архіўных работнікаў, якія займаюцца дасьледаваньнем розных праблем канфесійнай гісторыі Беларусі. З дакладамі і ў дыскусіях актыўна выступалі таксама і сьвятары: праваслаўныя, грэка-каталіцкія і рыма-каталіцкія.

Жывой і цікавай атрымалася дыскусія на круглым стале, прысьвечаным 170-годдзю сабору ў Полацку, які прыняў рашэньне аб пераводзе беларускіх уніятаў у праваслаўе і карэнным чынам змяніў канфесійную сітуацыю на беларускіх землях. Сваё бачаньне праблемы акрэсьлілі прадстаўнікі праваслаўных і грэка-каталікоў. Уласна вакол іх дакладаў, прысьвечаным праблеме кананічнасьці полацкага сабору 1839 г., разгарэліся асноўныя дыскусіі. Шматлікія пытаньні былі зададзены пераважна праваслаўнаму боку, бо для навукоўцаў іх довады далёка не заўсёды выглядалі пераканаўчымі. Але, паводле прызнаньня ўсіх удзельнікаў круглага стала, дыскусія аказалася вельмі карыснай, бо дапамагла лепш зразумець пазіцыі і аргументы як праваслаўных, так і каталікоў.

***Вядома, што Каталіцкая Царква на ІІ Ватыканскім саборы прыняла вядомыя экуменічныя пастановы. Я маю на ўвазе Дэкларацыю пра адносіны Царквы да нехрысьціянскіх рэлігіяў, у якой ёсьць выказваньні пра юдаізм, іслам і некаторыя разнавіднасьці язычніцтва (індуізм і буддызм), якія мяне вельмі бянтэжаць. У мяне пытаньне: як ГЭТА стасуецца з асноўным хрысьціянскім догматам пра тое, што ёсьць толькі адзін Бог – трыадзіны Айцец, Сын і Сьвяты Дух? Некаторыя праваслаўныя аўтары пішуць цяпер, што католікі адмовіліся ад Хрыста і ператварыліся ў неаязычніцкую рэлігію. У мяне пытаньне: як трэба разумець гэтую экуменічную дэкларацыю ІІ Ватыканскага Сабору? З павагай***

***Дзяніс***

Шаноўны Дзяніс, мы зразумелі сутнасьць Вашых пытаньняў адносна Дэкларацыі пра адносіны Царквы да нехрысьціянскіх рэлігііяў *“Nostra Aetate”*, якія выклікалі ў Вас непаразуменьне, і гатовыя дапамагчы ў іх разьвязаньні.

Па-першае, адкажам на самую агульную частку Вашага пытаньня: як разумець Дэкларацыю *“Nostra Aetate”* (“Наш час”). Дзеля гэтага варта зьвярнуць увагу на мэту і прычыну зьяўленьня гэтай Дэкларацыі, а таксама на паняцьці пошуку Бога і Божага Аб’яўленьня. Дэкларацыя *“Nostra Aetate”* напісана з прычыны неабходнасьці даць адказ Царквы на актуальныя праблемы дачыненьняў хрысьціянаў з людзьмі іншых веравызнаньняў ва ўмовах глабалізацыі. І нават праз сорак тры з паловай гады пасьля выхаду ў сьвет гэтай Дэкларацыі гэты адказ Царквы ня страціў актуальнасьці. Гэты дакумент заклікае хрысьціянаў цьвёрда трымацца праўды і надзеі, адкрытай нам Богам у Ісусе Хрысьце; зьвеставаць Евангельле Нябеснага Валадарства, але пры гэтым любіць тых, да каго яно яшчэ не дайшло, хто яго па нейкіх прычынах не прыняў альбо нават учыніў супраціў, аддзяляючы людзей як асобаў ад сітуацыі іх дачыненьняў з Богам, бо ўсе людзі паміж сабою – адно, адзін род чалавечы, і пошук Бога ўласьцівы ўсім людзям.

Хрысьціянскі ж досьвед Бога ўзбагачаны і ўдасканалены Божым Адкрыцьцём.

Прыняцьце Евангельля і волі Божай пра сябе – справа дабравольная. Таму Царква дае адказ у акрэсьленых умовах: сьведчыць Евангельле, а з усімі людзьмі шукаць і падзяляць тое, што нас аб’ядноўвае. Таму дарэмныя ў сьвятле вышэйсказанага абвінавачаньні Каталіцкай Царквы з боку некаторых праваслаўных братоў на падставе Дэкларацыі *“Nostra Aetate”* ў адступінцтве ад Хрыста і ператварэньні ў новае язычніцтва. Напэўна, ім варта яшчэ раз уважліва перачытаць гэтую Дэкларацыю. Каталіцкая Царква сьведчыць гэтым дакументам наступнае: “Каталіцкая Царква не адмаўляе нічога, што ў гэтых рэлігіях ёсьць праўдзівага і сьвятога… Аднак яна абвяшчае і заўсёды павінна абвяшчаць Хрыста – “дарогу, праўду і жыцьцё” *(Ян 14, 6),* у Якім людзі знаходзяць паўнату рэлігійнага жыцьця і праз Якога Бог прымірыў усё з сабою” *(NA, 2).* Акрамя таго, прырода рэчы Дэкларацыі *“Nostra Aetate”* ёсьць такой, што не выказвае і не фармулюе догматаў; само паняцьце дэкларацыі Сусьветнага сабору азначае выяўленьне погляду Каталіцкай Царквы ды адкрытасьць тэзісаў гэтага дакументу для ўсіх людзей (у адрозьненьне ад Апостальскай канстытуцыі, дэкрэту); г. зн., што ўсе людзі і рэлігійныя супольнасьці могуць да яе далучыцца ды падобным чынам мысьліць, не губляючы пры гэтым сваёй тоеснасьці. Дэкларацыя ёсьць запрашэньнем, а не загадам, які абавязвае. І няхай Вас не “бянтэжаць” выказваньні Царквы пра юдаізм, іслам і інш., бо яны зусім не азначаюць прыняцьця Царквой іхняга веравызнаньня, але ёсьць заклікам да пошуку агульнага ў сферы чалавечага пошуку Бога ды выяўляюць павагу па-першае – да людзей, па-другое – да таго, што ёсьць у нас з імі агульнае ў веры.

Догмат пра Сьвятую Тройцу складае ў акрэсьленай сістэме стасункаў намі прынятую праўду Божага Аб’яўленьня, якая ёсьць – па-над чалавечыя высілкі і досьвед – у пошуку Бога. Гэты догмат, гэтую праўду мы сьведчым. І ні ў якім выпадку не трапляем у небясьпеку яе згубіць або адкінуць дзеля зямных мэтаў паразуменьня з людзьмі іншых веравызнаньняў.

**Віталь БЫСТРОЎ,**
*магістар тэалогіі*
*г.Берасьце*

---

***У мяне ёсьць хросны сын, ён хрышчаны ў праваслаўі. Калі я перайду ў грэка-рымскую Царкву, то ў якой веры мне яго выхоўваць? Ці магу я, будучы католікам, выхоўваць яго ў праваслаўі?***

***Алесь,** г. Кемерава (Расея)*

За хрысьціянскае выхаваньне дзіцяці ў першую чаргу нясуць адказнасьць яго родныя бацькі, а хросныя дапамагаюць ім у гэтым. Калі бацькі дзіцяці – практыкуючыя праваслаўныя, то, вядома ж, нельга “параманьваць” іх альбо дзяцей у Грэка-Каталіцкую Царкву. Аднак у Беларусі і Расеі часта здараецца, што прыналежнасьць бацькоў да Праваслаўнай Царквы толькі намінальная. У такой сітуацыі, калі, напрыклад, яны папросяць Вас вадзіць дзіця ў нядзельную школку пры грэка-каталіцкай парафіі, ня трэба адмаўляцца. Калі ж бацькі будуць настойваць на выхаваньні дзіцяці ў Праваслаўнай Царкве, Вы мусіце дапамагчы ім у гэтым, выхоўваючы хросьніка як сапраўднага хрысьціяніна. У любым выпадку Вашая прыналежнасьць да Грэка-Каталіцкай Царквы не перашкодзіць Вам выхоўваць дзіця ў праваслаўнай традыцыі, бо мы маем шмат супольнага – Сьвятое Пісаньне, сем Сьвятых Тайнаў, літургічная традыцыя і г.д.

Варта дадаць, што выбар той ці іншай Царквы – гэта заўсёды сьвядомае рашэньне кожнага чалавека, а ня нейкае наканаваньне. Калі Вы перакана용ныя ў сапраўднасьці Каталіцкай Царквы і хочаце перадаць гэтае пераканаўне свайму хросьніку – будзьце для яго найперш прыкладам сапраўднага хрысьціянскага жыцьця. Тады ён, дасягнуўшы паўналецьця, можа і сам зробіць выбар на карысьць Грэка-Каталіцкай Царквы.

**а. Андрэй КРОТ,**
*г. Горадня*

# Рым: сімпозіюм на тэму канкардатаў з посткамуністычнымі краінамі

***27 мая 2009 году ў Папскім унівэрсітэце сьвятога Тамаша Аквінскага ў Рыме адбылася канферэнцыя на тэму "Апостальская Сталіца і посткамуністычныя краіны ў Эўропе". Пра значэньне канкардатаў і іншых пагадненьняў, якія Ватыкан заключыў на нашым кантыненце пасьля падзеньня камунізму, гаварылі галоўныя ватыканскія ярархі тых часоў: кардынал Анджэла Садана, кардынал Акіле Сільвестрыні, кардынал Роджэр Этчэгерэй, а таксама архібіскуп Мікола Этэравіч, былы Апостальскі нунцый ва Ўкраіне.***

Ва ўступным рэфераце кардынал Анджэла Садана паказаў шырокую панараму, якая выявіла, як моцна кожная з посткамуністычных дзяржаў, "парываючы" з мінулым, імкнулася да заключэньня пэўнага пагадненьня з Апостальскай Сталіцай.

Канферэнцыя завяршылася публічнай дыскусіяй. Кардынал Этчэгерэй падзяліўся сваімі ўражаньнямі пра свае шматлікія сустрэчы з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем II. "Праўдападобна, мы занадта сурова ацэньвалі рускую Царкву, – сказаў былы старшыня Папскіх Радаў *"Iustitia et Pax"* і *"Cor Unum"*. – Патрыярх неаднойчы пераконваў мяне, што не жадае саюзу трону і алтара. Аднак пасьля падзеньня камунізму мы былі безабароннымі перад наплывам сект, мы былі непадрыхтаваныя, пазбаўленыя сродкаў, базы, каб стаць на ногі ў новай сітуацыі". Кардынал Акіле Сільвестрыні, між іншым, перасьцярог ад пераацэнкі канкардатаў у краінах, дзе першаю рэлігіяй зьяўляецца праваслаўе. "Наша пазіцыя ў гэтых дзяржавах залежыць перш за ўсё ад адносінаў з Праваслаўнай Царквою", – падкрэсьліў былы прэфект Кангрэгацыі па справах Усходніх Цэркваў.

Нагадаем, што ў хуткім часе, як паведаміў у інтэрв'ю АНТ Дзяржаўны сакратар Яго Сьвятасьці Папы Бенядыкта XVI кардынал Тарчызіё Бэртонэ, будзе падпісана пагадненьне аб супрацоўніцтве паміж Апостальскай Сталіцай і Рэспублікай Беларусь. Рашэньне аб распачацьці працы па яго падпісаньні было прынята 20 чэрвеня 2008 г. падчас сустрэчы кардынала Тарчызіё Бэртонэ з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. Гэтая сустрэча адбылася ў межах візіту ватыканскага ярарха ў Беларусь.

*Catholic.by*

# Сьвята Божага Цела – супольнае сьведчаньне católікаў

***Праз 10 дзён пасьля ўрачыстасьці Зыходу Сьвятога Духа (Пяцідзясятніцы) у календары Царквы лацінскага абраду прыпадае сьвята Цела і Крыві Хрыстовай (Найсьвяцейшай Эўхарыстыі, або сьвята Божага Цела). У гэтым годзе гэта быў чацьвер, 11 чэрвеня. Паколькі ў Беларусі гэта працоўны дзень, звычайна ў дыяцэзіях урачыстыя працэсіі ладзяцца ў бліжэйшую суботу або ў нядзелю.***

У нядзелю, 14 чэрвеня ўрачыстая эўхарыстычная працэсія з Сьвятымі Дарамі (Найсьвяцейшым Сакрамантам) адбылася вуліцамі Менску. Працэсію ўзначальваў Мітрапаліт Менска-Магілёўскі архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Акрамя сьвятароў лацінскага абраду ў працэсіі ўдзельнічалі і менскія грэка-каталіцкія душпастыры а. Пахом Кавалёў і а. Яўген Усошын. (Протапрасьвітар Андрэй Абламейка ды Архімандрыт Сяргей (Гаек) былі ў гэты дзень у Рыме на біскупскай хіратоніі новага Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў архібіскупа Цырыла Васіля). У працэсіі ўзялі ўдзел таксама грэка-каталіцкія панамары Алтарнага брацтва, якія несьлі харугвы і абраз Хрыста Міласэрнага, які падарожнічае па парафіях Менска-Магілёўскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі.

У Віцебску ва ўрачыстай эўхарыстычнай працэсіі, якую ў суботу, 13 чэрвеня, узначаліў кардынал Казімір Сьвёнтэк, удзельнічалі грэка-каталіцкія сьвятары Ўсходняга дэканату а. Алесь Шаўцоў і а. Алесь Шыбека.

У Горадні ў шматтысячнай эўхарыстычнай працэсіі каталікоў у нядзелю, 14 чэрвеня, ужо традыцыйна браў удзел душпастыр грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай а. Андрэй Крот. А ў Івацэвічах у працэсіі з рыма-каталікамі ўдзельнічалі панамары мясцовай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Жыровіцкай.

Сьвята Найсьвяцейшага Цела і Крыві Гасподняй стала супольным сьведчаньнем духовай сулучнасьці каталікоў лацінскага і візантыйскага абрадаў у іх адказнасьці за веру ды Паўсюдную Царкву.

*Паводле Svjazep.org*

# Менскім грэка-каталікам не дазволілі будаваць царкву

***Улада дала адмоўны адказ на зварот сьвецкіх уніятаў да Аляксандра Лукашэнкі.***

Як вядома, у сярэдзіне красавіка 2009 году некалькі дзясяткаў сьвецкіх грэка-каталікоў г. Менску, сярод якіх пісьменьнік Уладзімір Арлоў, паэтэса Валянціна Аксак, доктар гістарычных навук прафесар Анатоль Грыцкевіч, доктар багаслоўя Ірына Дубянецкая, паэтэса і перакладчыца Галіна Дубянецкая, доктар фізіка-матэматычных навук прафесар Юры Хадыка, кандыдат гістарычных навук Эдвард Зайкоўскі ды іншыя дзеячы культуры, накіравалі зварот да Аляксандра Лукашэнкі. У гэтым звароце яны канстатавалі факт: за 19 гадоў існаваньня ў Менску грэка-каталіцкай супольнасьці ўлада так і не дала дазволу на будаўніцтва ўніяцкай сьвятыні ў сталіцы.

Толькі дзякуючы таму, што ў чэрвені мінулага году з візітам у Беларусь прыязджаў Дзяржаўны Сакратар Яго Сьвятасьці Папы Рымскага, менскім

Працяг на с.18-19 ⇨

# “Мой Улюбёны – нібы гор вышыні”

***На пачатку чэрвеня 2009 году выйшаў дыск “Песьні Духа вялікіх містыкаў Кармелю”, які запісалі берасьцейскія грэка-католікі з харызматычнай супольнасьці “Маран ата”. Гэты дыск, які складае музычная кампазіцыя з 14 песьняў і ўрыўкаў з Сьвятога Пісаньня, стаў ня толькі першым для музыкантаў гэтай харызматычнай супольнасьці, але і першым музычным праектам, зьдзейсьненым у БГКЦ. У бліжэйшы час плануюцца выступы з прэзентацыяй гэтага дыску ў краіне.***

*Распавесьці пра гэты дыск (наклад якога склаў 1000 асобнікаў), пра тое, як нарадзілася ідэя яго стварэньня, мы папрасілі спн. Вольгу Граськову, каардынатара гэтага музычнага праекту. Яна зрабіла пераклад на беларускую мову вершаў вялікіх містыкаў Кармелю – сьв. Яна ад Крыжа, сьв. Тэрэзы Авільскай і сьв. Тэрэзы з Лізье, а таксама зьяўляецца аўтарам музыкі і аранжыроўкі да шэрагу песьняў, што гучаць на дыску. Вось што яна распавяла:*

Зьяўленьне ў сьвет нашага першага кампакт-дыску “Песьні Духа вялікіх містыкаў Кармелю” адбылося дзякуючы Ўсемагутнаму Богу, Ягонай ласцы, дарагім братам і сёстрам кармялітам, якія падтрымалі наш праект, а таксама ахвярнаму служэньню музычнай групы супольнасьці “Маран ата”. Шчыра ўдзячныя таксама Віталю Ўсьцямчуку, які дапамог нам зрабіць аранжыроўку і запіс песьняў у сваёй студыі.

Распавядаючы пра наш дыск, пачну з выявы, якая зьмешчана на ягонай вокладцы. На ёй – выгнутая ў языках полымя постаць з малітоўна ўзьнятымі рукамі, якая сама стала адным з языкоў гэтага полымя. Гэта выява сьв. Тэрэзы з Лізье (Тэрэза ад Дзіцятка Ісуса) – манахіні-кармяліткі, якая прынесла сябе як ахвяру міласэрнай Любові Бога. Аўтарам гэтага выдатнага мастацкага твора (эмаль на медзі) зьяўляецца Элізабэт Содэрбэр-Вэйксельгартнер. Свой твор яна так і назвала “Сьв. Тэрэза з Лізье” (мы знайшлі яго ў інтэрнэце на адным з кармяліцкіх сайтаў).

Каб прыняць і адчуць Боскую Любоў трэба адрачыся сябе, пакласьці на ахвярнік для цэласпаленьня нават не свайго адзінага любага сына, як гэта зрабіў Абрагам, (і Сам Бог, дарэчы), а сябе самога, сваё “Я”. Гэта зразумела, але цяжка. Мы жывем і пакутуем толькі праз тое, што ня можам адважыцца на такую шалёную любоў, але ніякага іншага “механізму збаўленьня” ў нашым стане, у нашай сістэме каардынатаў, не існуе. Як бы мы ні адкідвалі гэты камень – ён ўжо зрабіўся галавою вугла той пабудовы сьвету, у якой мы жывем. Ня ўсе могуць гэта прыняць, бо Сам Бог кажа: “Шмат пакліканых, ды мала выбраных” *(Лк 14, 24)* – тых, для якіх такі шлях не пакута, а любоў. Дарэчы, як казала Малая Тэрэза (з Лізье), “паміраць ад любові не азначае паміраць у захапленьні. Наш Гасподзь памёр на крыжы ў страшных муках, але гэта – самая цудоўная сьмерць ад любові”.

А ішлі мы да ідэі стварэньня дыску на вершы вялікіх кармельскіх містыкаў доўгім шляхам. Некалькі гадоў таму да мяне зьвярнулася сястра з Берасьцейскага дому сясьцёр-кармялітак ад Дзіцятка Ісуса з просьбай перакласьці з польскай на беларускую мову тэкст чатырох – “нашых кармельскіх”, як яна іх назвала – песьняў. Я адразу з радасьцю згадзілася, бо літаральна за дзень да гэтага малілася і прасіла Бога аб якой-небудзь карыснай і цікавай справе для сябе. Сястра-манахіня прынесла магнітафон і касету з песьнямі Конрада Ясовіча на вершы сьв. Яна ад Крыжа і сьв.Тэрэзы з Лізье *(“Rzucać kwiaty”, 1995 г.)*…

Сустрэча з паэзіяй вялікіх містыкаў Кармелю сталася значна больш сур’ёзнай справай, чым я сабе ўяўляла, калі згадзілася за 3-4 тыдні зрабіць пераклад ды падрыхтаваць касьцёльную моладзь да выкананьня чатырох кармельскіх песьняў на ўрачыстасьць складаньня вечных зарокаў трох сясьцёр-манахіняў у санктуарыюме Маці Божай у Гудагаі. Гэтая паэзія нібы адчыніла для мяне брамы праўды,

# Менскім грэка-католікам не дазволілі будаваць царкву

⇨ Пачатак на с. 17

уніятам дазволілі адчыніць Грэка-каталіцкі цэнтр па вул. Арджанікідзэ, дзе ёсьць капліца. У парафіяльным жа доме, пабудаваным у завулку Сьнежны, улады Фрунзенскага раёну г. Менску дазволу на адпраўленьне багаслужбаў не далі.

Уніяты прасілі кіраўніка дзяржавы дазволіць ім пабудаваць храм на месцы зруйнаванай бальшавікамі царквы Сьвятога Духа, якую ўзьвялі за мітрапалітам Міхаілам Рагозам у 1598 годзе.

Пішучы зварот да А. Лукашэнкі, уніяты ня ведалі таго, што менскімі ўладамі прынята рашэньне пра будаўніцтва на месцы царквы Сьвятога Духа



*“утраченного исторического объекта с использованием архитектурно-художественного образа здания церкви Святого Духа XVII в.”*. Таму амаль адначасовае зьяўленьне ў СМІ гэтага паведамленьня пра гэтае будаўніцтва і звароту грэка-католікаў да А.Лукашэнкі журналісты няправільна тлумачылі, быццам католікі візантыйскага абраду хочуць, каб улада адбудавала для іх царкву. Уніяты ж прасілі менавіта аб тым, каб ім было дазволена самім адбудаваць царкву.

20 траўня, г. зн. пасьля паездкі А.Лукашэнкі ў Ватыкан, на адрасы прафесара Анатоля Грыцкевіча, доктара Ірыны Дубянецкай і кандыдата гістарычных навук Эдварда Зайкоўскага быў напісаны адказ камітэту архітэктуры і горадабудаўніцтва Менскага гарадзкога выканаўчага камітэту, а праз два дні пасьля адказ на імя прафесара Юрыя Хадыкі напісалі і чыноўнікі Менскага гарвыканкаму:

*“...Сообщаем, что участниками совещания было высказано мнение о необходимости неукоснительного выполнения Указа Президента Республики Беларусь от 14.07.2004 № 330 "О развитии исторического центра г. Минска" и целесообразности дальнейшего восстановления бывшей*

якімі мне належала ўвайсьці ў неабсяжную, дагэтуль невядомую глыбіню (ці вышыню?) духа. Памятаеце, як кажа Давід: “Адчыніце мне браму праўды; увайду ў яе, праслаўлю Госпада” *(Пс 117, 19)*. Я вельмі ўдзячная Богу за тое, што Ён падвёў тады мяне да гэтых таемных дзьвярэй.

Гэтая “цікавая справа” аказалася няпростай: духоўная паэзія – ня проста па-мастацку рыфмаваная прыгажосьць вобразаў, створаных з дапамогай метафар, эпітэтаў і г. д. Гэта – багаслоўе Айцоў Каталіцкай Царквы, рэфарматараў ордэну кармялітаў, якое трэба было выказаць праз рыфмаванае слова і музыку. За гэтую справу малілася ўся “Маран ата”, сёстры-кармяліткі; маліліся таксама і Вялікая Тэрэза з Авілю і Малая Тэрэза ад Дзіцятка Ісуса, бо я зьярталася да іх з просьбай аб дапамозе. Разам са сьв. Янам ад Крыжа мне прыйшлося араць духоўную цаліну майго асабістага шляху да Бога – я сама ішла праз пошук, ачышчэньне, ноч... – праз усе тыя этапы, пра якія гэты сьвяты згадвае ў “Песьні духа”.

“Неабсяжная прыгажосьць” Асобы Бога, якая адкрываецца праз духоўную паэзію містыкаў Кармелю, “неадрыўна прывабіла” ня толькі мяне, але і большасьць нашай супольнасьці. Кармяліцкая духоўнасьць, па сваёй прыродзе блізкая да ўсходняй, вельмі паўплывала на духоўнасьць “Маран аты”. Мы маліліся і молімся дагэтуль з гэтымі песьнямі. За гэты час у нас зьявіліся новыя беларускія пераклады (з польскай) вершаў сьв. Тэрэзы з Авілю і сьв. Тэрэзы з Лізье, якія таксама сталі песьнямі. Большасьць з іх увайшла ў сьпеўнік супольнасьці “Маран ата”, які мы выдалі ў 2006 годзе. Некалькі разоў мы былі з музычнымі праграмамі на тэму “Духоўны шлях душы-нявесты да Бога” ў манастыры кармялітаў у Гудагаі ды ў іншых парафіях Беларусі і Украіны. Паўсюль кармельскія песьні выклікалі вялікую цікавасьць і пакідалі пазітыўны водгук у сэрцах слухачоў. “Толькі б людзі трохі болей зразумелі і праславілі Госпада, і няхай мяне пракляне ўвесь сьвет”, – пісала сьв. Тэрэза з Авілю, і мы цалкам былі згодныя з ёю.

І, нарэшце, Ігар Бараноўскі, рэдактар газеты “Царква”, пераканаў нас запісаць гэтыя песьні на кампакт-дыск. Мы пагадзіліся, таму што лічым гэта часткай нашага прапаведваньня Евангельля. Дакрананьне да духу Кармелю робіць нешта дзіўнае з сэрцам чалавека, натхняе і вабіць, уводзіць у невядомы дагэтуль стан адносінаў з Богам. Праз песьні на гэтым дыску мы хацелі падзяліцца з усімі, “хто мае вушы, каб чуць”, тым, што самі атрымалі праз гэтыя песьні, – Любоўю да Бога.

На дыску запісана 14 песьняў, зьвязаных між сабою вершамі з Сьвятога Пісаньня ў адзіную кампазіцыю, агульны час гучаньня якой – больш за гадзіну. Усе тэксты песьняў сабраныя і выдадзеныя асобнай кніжачкай.

Паспрабуйце слухаць ня проста вушамі – сэрцам!




***Адносна набыцьця кампакт-дыску “Песьні Духа вялікіх містыкаў Кармелю”, які запісалі берасьцейскія грэка-каталікі з харызматычнай супольнасьці “Маран ата”, можна зьвяртацца да а. Ігара Кандрацьева на яго e-mail: a.ihar@tut.by і па тэлефонах: (+375 162) 24-74-82, (+375 29) 724-74-82.***

*церкви Святого Духа как памятника архитектуры, а не культового здания, с размещением в нём зала детской филармонии.*

*Функциональное использование указанного строения в качестве детской филармонии сможет объединить расположенную здесь детскую музыкальную школу, Белорусскую государственную академию музыки, Республиканскую гимназию-колледж при БГАМ и создать на территории исторического центра полноценный комплекс учреждений музыкального направления. Это будет способствовать также решению задачи по созданию и развитию в районе площади Свободы объектов духовно-культурного назначения, что отражено в Концепции реконструкции, развития и функционального использования объектов недвижимого имущества и территории исторического центра г. Минска".*

Адказы з Адміністрацыі прэзідэнта, камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Менгарвыканкаму і Менскага гарвыканкаму выклікалі негатыўную рэакцыю ў асяроддзі сьвецкіх каталікаў візантыйскага абраду г. Менску. Яны схільныя лічыць, што грэка-каталіцкая супольнасьць Менску і ўсёй Беларусі дыскрымінуецца.

Якія будуць далейшыя крокі менскіх уніятаў, пакажа час.

Слава Ісусу Хрысту!

Наш парафіянін Ян Лагвіновіч з Баранавічаў падзяліўся з намі сваёй паэтычнай рэфлексіяй адносна адмысловага прывітаньня беларускіх хрысьціянаў і спадзяецца на музыку, якая ўцелавіць гэты радасны настрой у адпаведнай мелодыі. Прапануем яго твор таксама ўвазе чытачоў газеты “Царква”.

*Вернікі баранавіцкай грэка-каталіцкай парафіі сьв. Кірылы і Мятода*

**Ян ЛАГВІНОВІЧ**

## Трыялет веры

Павітаецца хтосьці:
Жыве Беларусь!
Адкажу яму:
З Богам жыве!
Быццам сябрам ці братам мяне назаве
Той, хто скажа:
Жыве Беларусь!
Перажыць давялося ліхую пару…
Дзякуй Богу, мы зноў у Царкве.
Калі першы прамоўлю:
Жыве Беларусь!
Адкажыце мне:
З Богам жыве!

# Архірэйская хіратонія новага Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў

⇨ Пачатак на с. 3

По асабістым запрашэньні новага Сакратара Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў а. Цырыла Васіля ў Боскай Літургіі, на якой адбывалася яго хіратонія, удзельнічалі Архімандрыт Сяргей (Гаек), Апостальскі Візітатар БГКЦ і протапрасьвітар-дэкан Цэнтральна-Заходняга протапрасьвітарату а. Андрэй Абламейка (Уладыка Кірыла шмат гадоў быў царкоўным асістэнтам скаўтаў Еўропы (FSE) і ведае асабіста яго) ды ераманах Лявонці (Тумоўскі), а таксама рымскі семінарыст БГКЦ Андрэй Гайдукевіч.

Сярод вернікаў была вялікая група скаўтаў з Славакіі і розных краінаў Еўропы.

Напрыканцы багаслужбы са словам падзякі выступіў новавысьвячаны Ўладыка Кірыла (Цырыл Васіль). Ён адзначыў, што пачынае сваё біскупскае служэньне ў сымбалічным месцы, бо ўласна ў гэтай базыліцы Сьвятой Марыі Найвялікай папа Адрыян II паклаў на алтар славянскія літургічныя кнігі, тым самым ухваліўшы літургічную мову нашых продкаў. Тут, у Рыме, недалёка ад гэтай базылікі, 1140 гадоў таму (у 869 г.) закончыў свой зямны шлях сьв. Кірыла, а пасьля яго сьмерці асьветніцкую дзейнасьць сярод славянаў працягваў сьв. Мятод, які стаў тут архібіскупам і папскім легатам. Таксама ён узгадаў часы перасьледу Грэка-Каталіцкай Царквы ў Славакіі і яе мужных ярархаў – сьвятамучанікаў Паўла Гойдыча і Васіля Гопка. Дзякуючы ўсім, хто дапамагаў яму на яго жыцьцёвым шляху, Уладыка Кірыла ўзгадаў і тое, як у 1987 годзе, яшчэ ў часы перасьледу ГКЦ, ён зьвярнуўся ў Кангрэгацыю Ўсходніх Цэркваў з просьбай пра магчымасьць студыяў у Рыме, і вось сёньня, з ласкі Божае, ён вяртаецца туды зноў, ужо як Сакратар. Напрыканцы сваёй прамовы ён асабліва падзякаваў Сьвятому Айцу, а таксама біскупам, сьвятарам, манахам і вернікам, якія маліліся за яго падчас хіратоніі, і ўдзяліў усім прысутным сваё першае архірэйскае блаславеньне.

Пасьля хіратоніі дэлегацыя БГКЦ павіншавала Ўладыку Кірыла, а Архімандрыт Сяргей перадаў яму капсулу з зямлёй з месца мучаніцтва сьвятога сьвятамучаніка Язафата, архібіскупа Полацкага.

Беларускія ўдзельнікі гэтай урачыстай падзеі мелі таксама магчымасьць паразмаўляць з Прэфектам Кагрэгацыі Ўсходніх Цэркваў Кардыналам Леанардам Сандры. БГКЦ сёньня наўпрост падпарадкавана Апостальскай Сталіцы і кіраваньне ёй зьдзяйсьняецца праз гэтую Кангрэгацыю.





***Уладыка Кірыла ВАСІЛЬ** (Cyril Vasil') нарадзіўся ў Кошыцах (Славакія) 10 красавіка 1965 г. Навучаўся ў Браціслаўскім універсітэце на багаслоўскім факультэце. Быў рукапакладзены на сьвятара 14 чэрвеня 1987 г. біскупам Славамірам Міклаўшам з Югаславіі, бо ў той час Славацкай Грэка-Каталіцкай Царквой кіраваў ардынар-мітрат, які ня быў біскупам (не атрымаў дазволу камуністычных уладаў). У 1990 годзе айцец Цырыл Васіль уступіў у Ордэн Езуітаў.*

*У 1989 г. атрымаў ліцэнцыят усходняга кананічнага права ў Папскім Усходнім інстытуце ў Рыме, там жа ў 1994 г. абараніў доктарскую працу.*

*Пасьля заканчэньня студыяў а. Цырыл Васіль зьяўляўся прафесарам, дэканам факультэту кананічнага права ў Папскім Усходнім інстытуце, а з 2004 г. – рэктарам гэтага Інстытуту. Разам з Архімандрытам Сяргеем (Гаекам) працаваў у коле кансультараў Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў.*

*Уладыка Кірыла Васіль – аўтар шматлікіх кніг і публікацыяў, супрацоўнічаў з Ватыканскім Радыё.*

*Акрамя роднай славацкай мовы, валодае таксама лацінскай, італійскай, ангельскай, французскай, нямецкай, гішпанскай, грэцкай, царкоўнаславянскай, расейскай і ўкраінскай мовамі.*

*Новы Сакратар Кангрэгацыі Ўсходніх Цэркваў свабодна чытае па-беларуску і шматразова дапамагаў сваімі юрыдычнымі кансультацыямі БГКЦ.*

*Заснаваная ў 1995 г.*
Царква
*грэка-каталіцкая газета*
*№ 2 (61), 2009*
17 чэрвеня

**Адрас рэдакцыі:**
вул. Дворнікава, 63
224014, Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by
*сайт: carkva-gazeta.org*

**Заснавальнік і выдавец:** грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя ў г. Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 28.10.2008 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй СІДАРОВІЧ (МІС)
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар БАРАНОЎСКІ
**Падпісана ў друк:** 17 чэрвеня 2009 году, 23-45.
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. № 02330/0131540 ад 30.04.04), вул. Мініна, 23-106, 220014, Менск. **Замова** № 140
**Аб'ём** 2,5 друк. арк. **Наклад** 3300 асобнікаў.

***НАШ РАХУНАК:***
*№ 3015200210017*
*у філіяле № 2/01*
*г.Берасьця*
*ЗАТ "Абсалютбанк",*
*МФО 150201242,*
*УНП 200558013*